ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№9 (78) верасень 2017 год
CATHOLICNEWS.BY



Айцец Чэслаў Курэчка адзначыў дзесяцігоддзе працы ў Росіцы

Стар. 8

# І кветкі хваляць Пана:

## у Росіцы ў трэці раз прайшло свята кветак і ўраджаю



Стар. 7

“Каб Беларусь стала месцам, дзе жыве Бог”: біскуп Алег Буткевіч наведаў Варапаеўскую парафію

Паводле якога прынцыпу святароў і манахінь пераводзяць з адной парафіі ў іншую?



Стар. 11



Стар. 9

Ксёндз Вадзім Сурвіла расказаў гісторыю свайго паклікання




# Мільён вернікаў на святой Імшы з Папам у Багаце

**Каля мільёна чалавек прынялі ўдзел у св. Імшы ў інтэнцыі міру і справядлівасці, якую Папа Францішак цэлебраваў вечарам 7 верасня ў парку імя Сімона Балівара ў Багаце.**

Нягледзячы на дождж, вернікі запоўнілі яго тэрыторыю яшчэ з самай раніцы. У чаканні Пантыфіка тут адбылася сустрэча на тэму абароны жыцця, а перад пачаткам літургіі ён блаславіў групу людзей з абмежаванымі магчымасцямі.

У сваёй гаміліі Папа нагадаў, што, калі Езус прапаведваў у Галілеі, вакол Яго збіралася мноства людзей. Слова Пана мае штосьці, што не пакідае абыякавым нікога. Мае сілу змяняць сэрцы, задумы і праекты. Яно пацверджана дзеяннямі, а не проста з'яўляецца *"заключэннямі, напісанымі за сталом"* ці *"халоднымі і далёкімі ад болю людзей выразамі"*, лічыць Святы Айцец.

Паводле Папы Францішка, Калумбія таксама прагне слова жыцця, але, як і ў іншых частках свету, тут ёсць цемра, што сее пагрозы і знішчае яго. Гэта "цемра несправядлівасці і сацыяльнай няроўнасці, карупцыйная цемра прыватных ці групавых інтарэсаў, калі эгаістычна і няспынна спажываецца тое, што прызнача для дабрабыту ўсіх. Цемра недахопу павагі да чалавечага жыцця, што кожнага дня косіць лёсы шматлікіх нявінных людзей, кроў якіх усклікае да неба. Цемра прагі помсты і нянавісці, якая заплямлівае чалавечай крывёй рукі тых, хто чыніць справядлівасць самастойна. Цемра тых, хто застаецца абыякавым перад болем вялікай колькасці ахвяр".

Пантыфік высока ацаніў дзейнасць калумбійцаў, якія першымі зразумелі, чаго найбольш патрабуе іх краіна, і высунулі ініцыятывы на карысць устанаўлення міру і абароны жыцця. Ён запэўніў, што мільёны жыхароў Багаты і ўсёй Калумбіі змогуць стварыць па-сапраўднаму жывыя, справядлівыя і братэрскія супольнасці, калі будуць слухаць і прымаць Божае слова.

Напрыканцы гаміліі Папа заклікаў жыхароў гэтай лацінаамерыканскай краіны клапаціцца пра супольнае дабро і ўзяць на сябе адказнасць за самых слабых, ахоўваючы іх правы, а таксама пакінуць страх, які паралізуе і перашкаджае быць будаўнікамі міру і абаронцамі жыцця.

Пасля св. Імшы Пантыфік правёў кароткую сустрэчу з біскупамі Венесуэлы. Ён пацікавіўся сітуацыяй у гэтай краіне і ўдзяліў блаславенне яе народу і мясцоваму Касцёлу.

*Ватыканскае радыё*

# Кардынал Паралін: візіт у Расію быў канструктыўным



**Кардынал Паралін станоўча ацаніў вынікі свайго візіту ў Расію. Сустрэчы, якія адбыліся ў яго межах, *"характарызаваліся атмасферай сардэчнасці, слухання і павагі"*. Яны былі важнымі і канструктыўнымі, падкрэсліў найбліжэйшы супрацоўнік Папы ў інтэрв'ю ватыканскім СМІ.**

Кардынал-дзяржсакратар заўважыў, што дзякуючы размове з прадстаўнікамі расійскага епіскапату ён змог бліжэй пазнаёміцца з жыццём каталіцкай супольнасці ў Расіі, яе радасцямі і надзеямі, а таксама выклікамі і цяжкасцямі, пра якія потым меў магчымасць распавесці дзяржаўным уладам. У прыватнасці, гэта датычыцца тэмы рэстытуцыі некаторых касцёлаў, што былі канфіскаваныя ў часы камуністычнага рэжыму і ў якіх каталіцкая супольнасць сёння мае патрэбу.

Кіраўнік ватыканскай дыпламатыі ўжо паінфармаваў Пантыфіка пра змест і вынікі свайго візіту ў Расію, а таксама пераказаў шматлікія віншаванні ад вернікаў, уладаў і Патрыярха Кірыла. *"Папа быў задаволены тымі ўражаннямі, тымі станоўчымі вынікамі, пра якія я распавёў яму. Як мы ведаем, Папа – і ён падкрэсліў гэта таксама ў дадзенай сітуацыі – вельмі, вельмі ўважлівы да ўсіх нагодаў для дыялогу, якія могуць быць. Ён цэніць усе магчымасці для дыялогу і вельмі радуецца, калі здзяйсняюцца крокі наперад у гэтым напрамку"*, – сказаў іерарх.

Уходзе сустрэчы з Патрыярхам Маскоўскім гаворка ішла, між іншым, пра новую атмасферу, якая пануе ў адносінах паміж Рускай Праваслаўнай Царквой і Каталіцкім Касцёлам, асабліва пасля сустрэчы Папы і Патрыярха ў Гаване. Дзяржсакратар падзяліўся, што для праваслаўных вернікаў вялікай падзеяй стала выстаўленне рэліквій св. Мікалая, якія некалькі месяцаў таму прывозіліся ў Маскву і Санкт-Пецяргург з Бары. Гэта падкрэслівалі многія яго праваслаўныя суразмоўцы.

Паводле слоў іерарха, як з боку Рускай Праваслаўнай Царквы, так і з боку Касцёла існуе жаданне *"не змарнаваць таго патэнцыялу, які адкрыўся"*, і працягваць супрацоўніцтва ў розных сферах і на розных узроўнях.

Найбліжэйшы супрацоўнік Папы паведаміў, што закраналіся таксама "далікатныя тэмы ў адносінах паміж двума Цэрквамі". У той жа час ажыццяўлялася спроба знайсці шляхі, якія падзяляюцца абодвума бакамі, для вырашэння праблем. Гэтыя канкрэтныя прапановы, якія ўзніклі, павінны быць правераныя і па магчымасці прынятыя пасля належнага разгляду.

Адной з тэмаў візіту стала сітуацыя ва Украіне. Яна выклікае вялікую заклапочанасць Святога Пасаду і абмяркоўвалася з кіраўніцтвам Рускай Праваслаўнай Царквы. *"Хачу сказаць, што перш за ўсё гаворка ішла пра пошук магчымых шляхоў да справядлівага і трывалага вырашэння канфлікту ў межах існых інструментаў, якімі з'яўляюцца дасягнутыя дамоўленасці паміж двума бакамі"*, – сказаў кардынал.

Ён дадаў, што Апостальскую Сталіцу хвалююць гуманітарныя аспекты. У дадзеным кантэсце была ўзгаданая важнасць вызвалення палонных. Гэта можа даць імпульс усяму працэсу, у тым ліку палітычнаму, каб працягваць развіваць тэму спынення агню, усталяванне бяспекі і нарэшце пошуку палітычных умоваў для вырашэння канфлікту. Каб крочыць у правільным напрамку, трэба думаць пра людзей і іх пакуты, лічыць Дзяржсакратар.

Падчас сустрэчы з Уладзімірам Пуціным кардынал Паралін абмеркаваў тэму пераследу хрысціян на Блізкім Усходзе, сітуацыю ва Украіне і Венесуэле, становішча расійскіх католікаў. Расія з'яўляецца вялікай дзяржавай, таму як сама краіна, так і яе лідар нясуць адказнасць за мір і павінны прыкладаць намаганні, каб ставіць яго вышэй за ўсе іншыя інтарэсы, сказаў ён.

Пасланнік Папы таксама сказаў, што падчас свайго візіту ў Расію быў асабліва крануты цёплай сустрэчай з мясцовай каталіцкай супольнасцю, кароткім візітам да сясцёр Божай Міласэрнасці, якія працуюць у Маскве, і наведваннем праваслаўнага сабора Хрыста Збаўцы.

*Ватыканскае радыё*

# Інаўгурацыя катэдральнага капітула ў мінскай катэдры



**12 верасня ў мінскім архікатэдральным касцёле прайшла цырымонія інаўгурацыі катэдральнага капітула святога Арханёла Міхала і Маці Божай Будслаўскай, падчас якой грэміяльныя і ганаровыя каноніні склалі прысягу.**

Грэміяльныя каноніні атрымалі падчас інаўгурацыі капітула сімвалічныя пярсцёнкі і крыжы – знакі адрознення грэміяльных канонікаў.

Катэдральны капітул Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі быў заснаваны 13 красавіка 2017 года. Да гэтага катэдральныя капітулы ў Беларусі ўжо былі заснаваныя ў Віцебскай і Гродзенскай дыяцэзіях.

### Хто такія каноніні?

Прэзбітэраў, якія з'яўляюцца чальцамі капітула, называюць канонікамі. Да іх заданняў належыць здзяйсненне найбольш урачыстых літургічных цэлебрацый у катэдральным касцёле, а таксама выкананне тых абавязкаў, якія на іх ускладзены правам або дыяцэзіяльным біскупам. Асноўным дакументам, што рэгулюе дзейнасць капітула, з'яўляецца яго статут.

Каноніні капітула падзяляюцца на дзве групы: грэміяльныя каноніні і ганаровыя каноніні. Прызначэнне канонікам носіць характар асаблівай адзнакі і прызнання заслуг перад дыяцэзіяй.

Грэміяльныя каноніні ў капітуле выконваюць разнастайныя функцыі: дэкана (старшыні), тэолага, пенітэнцыярыя, цырымоніймайстра, кусташа, сакратара. У Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі прызначаны 8 грэміяльных і 10 ганаровых канонікаў.

12 верасня прайшла цырымонія інаўгурацыі катэдральнага капітула святога Арханёла Міхала і Маці Божай Будслаўскай. Урачыстую святую Імшу ўзначаліў Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч.

*"Нашы продкі больш за 300 гадоў таму гэты прыгожы Божы дом прысвяцілі Імені Марыі – Маці нашага Збаўцы і нашай духоўнай Маці,* – сказаў у гаміліі арцыбіскуп. – *Сімвалічна, што ў гербе Мінска таксама знаходзіцца выява Марыі, пра што добра ўзгадаць асабліва ў гэтым годзе, калі сталіца Беларусі святкуе юбілей – 950-годдзе свайго заснавання. Ужо тады жыхары горада над Свіслаччу абралі Марыю сваёй заступніцай".*

Кажучы пра інаўгурацыю мінскага катэдральнага капітула, іерарх нагадаў, што капітул канонікаў мінскай катэдры быў і ў мінулыя часы, перад Кастрычніцкай рэвалюцыяй 1917 г., аднак праз пераслед веры тады перастаў існаваць.

*"Ажыццяўленне фацімскага прароцтва пра навяртанне нашых земляў дало магчымасць адраджэння мінскага катэдральнага капітула,* – сказаў Мітрапаліт. – *Сённяшняя цырымонія інаўгурацыі катэдральнага капітула – гэта яшчэ адзін знак адраджэння Касцёла і яго прызнання Апостальскім Пасадам. Гэта таксама знак прызнання заслуг асобаў, якія ўнеслі і далей уносяць свой уклад у адраджэнне і развіццё Касцёла ў нашай краіне".*

Паводле слоў арцыпастыра, *"абіраючы Маці Божую Будслаўскую і св. Міхала Арханёла сваімі апекунамі, мінскі катэдральны капітул хоча падзякаваць ім за апеку і дапамогу падчас цяжкага перыяду ганенняў, а таксама прасіць благаслаўлення на змаганне за чысціню веры і маральныя каштоўнасці, якіх сучасны свет не ўспрымае".*

Іерарх пажадаў, каб *"святое Імя Марыі падтрымлівала мінскі катэдральны капітул, каб ён быў радасцю нашага Касцёла"* і каб, беручы прыклад са святога Міхала Арханёла, *"Касцёл і далей дапамагаў людзям на першае месца ставіць веру ў Бога, без якой няма збаўлення".*

### Катэдральны капітул у Мінску

Катэдральны капітул у Мінску быў заснаваны 14 студзеня 2017 года Кангрэгацыяй па справах Духавенства.

Галоўнымі функцыямі капітула з'яўляюцца дапамога біскупу, удзел у найбольш урачыстых цэлебрацыях у катэдральным касцёле і ў іншых месцах архідыяцэзіі, арганізацыя ў катэдральным касцёле канферэнцый і сімпозіумаў, прысвечаных дакументам Святога Айца і Апостальскай Сталіцы, паглыбленне культу святога Арханёла Міхала і Маці Божай Будслаўскай, дапамога Мітрапаліту Мінска-Магілёўскаму, забеспячэнне вернікам магчымасці прыступаць да сакраманту пакаяння праз дзейнасць каноніка-пенітэнцыярыя.

*catholic.by*

# Сёстры са Слуцка распачалі сваё служэнне ў Гродне

**3 верасня ў Гродзенскай дыяцэзіі распачалі служэнне манахіні з Кангрэгацыі Сясцёр святой Ядвігі (ядвіжанкі).**

■ **кс. Юрый Марціновіч**, *grodnensis.by*

Тры маладыя манахіні, поўныя энтузіязму, руплівасці і запалу, будуць служыць у Гродзенскай парафіі Святога Духа (Альшанка).

Раней у Гродзенскай дыяцэзіі сясцёр-ядвіжанак не было. Першыя сёстры св. Ядвігі прыбылі ў Беларусь каля 25 гадоў таму – у Слуцк (Мінска-Магілёўская архідыяцэзія), дзе няспынна выконваюць служэнне і па сённяшні дзень. Прыклад жыцця сясцёр, іх самапрысвячэнне, малітва паспрыялі таму, што шмат дзяўчат са слуцкай парафіяльнай супольнасці пайшло іх следам.

Сёння ўжо больш за дзесяць сясцёр з гэтай парафіі, якія апранулі доўгі чорны габіт, блакітны вэлюм з белым контурам, медалік на чорнай стужцы з выявай св. Ядвігі на пярэднім і Беззаганнай на заднім баку.

Сястра Францішка, сястра Вікторыя і сястра Фаўстына, якія пачалі служэнне ў Гродне, належаць менавіта да гэтай групы. Усе яны паходзяць са Слуцкай парафіі, адчулі ўнутраны голас паклікання на нашай зямлі.

Яны так захапіліся сёстрамі, якія служылі ў Слуцку, што захацелі стаць працягам гэтай прыгожай манаскай справы, якая паўстала ў 1859 г. Яе заснаваў са згоды Святога Айца Піа IX вроцлаўскі святар кс. Роберт Спіске. Канчатковае зацвярджэнне Апостальскай Сталіцай адбылося 12 студзеня 1931 г.

Супольнасць імкліва развівалася ў Вроцлаўскай дыяцэзіі, дзе дзякуючы наплыву кандыдатак у хуткім часе ўзнікла дзевяць пляцовак. Заснавальнік кс. Роберт Спіске з маладых гадоў быў звязаны з постаццю апякункі Сілезіі св. Ядвігі. Яе жыццё, поўнае самапрысвячэння для хворых і бедных, мела, без сумнення, істотны ўплыў на жыццёвы шлях кс. Роберта і вырашальнае значэнне ў абранні апякункі для заснаванай супольнасці, мэтай якой стала выхаванне бяздомных, пакінутых дзяцей, а таксама апека над хворымі і састарэлымі.




Сёння сёстры з гэтай манаскай сям'і рэалізуюць сваё пакліканне ў Касцёле праз малітву і жыццё, прысвечанае Богу, праз хрысціянскае выхаванне дзяцей і моладзі, догляд хворых, дапамогу Касцёлу ў душпастырскай працы, праз адкрытасць на актуальныя патрэбы Касцёла.

Паводле Канстытуцыі супольнасці, задачай Сясцёр св. Ядвігі, згодна з воляй айца-заснавальніка, з'яўляецца "хрысціянскае выхаванне і навучанне дзяцей і моладзі, якое базуецца на вучэнні Касцёла".

У Гродзенскую парафію сёстры прыбылі па запрашэнні пробашча кс. Паўла Салабуды. Яны павінны заняцца найперш катэхізацыяй дзяцей і моладзі, але, як адзначае с. Францішка – настаяцельніца манаскай супольнасці, будуць імкнуцца служыць дапамогай усім, хто мае патрэбу, і бачыць усе патрэбы, не абмяжоўваючы сваіх магчымасцяў.

"Гэта маладая парафія, якую вядзе Дух Святы, а Ён дыхае, дзе хоча. Веру, што Ён будзе весці нас, як столькі гадоў вядзе святы Касцёл", – дадае сястра Францішка.

Хацелася б толькі пажадаць, каб плёнам распачатага служэння Сясцёр св. Ядвігі ў Гродне стала прыгажосць хрысціянскага жыцця ў маладых сем'ях мікрараёна Альшанка. Каб Пан менавіта з гэтых сем'яў паклікаў новых працаўнікоў на сваё жніва, якія з вялікай адданасцю будуць далей працягваць харызмат супольнасці.

# Памятны знак на месцы знішчанага драўлянага касцёла



**У Шаркаўшчынскай парафіі Узвышэння Святога Крыжа з 4 па 11 верасня 2016 года праходзілі Святыя Місіі. Падзея была вельмі доўгачаканая для мясцовых вернікаў. Існуе цудоўная місійная традыцыя – праз год праводзіць аднаўленне Місій.**

**Марына Сінкевіч**, *тэкст і фота*



Таму з 11 па 14 верасня сёлета шаркаўшчане з гэтай нагоды зноў сустрэліся з айцамі-аблатамі. Айцец Анджэй Юхневіч з Шумілінскай парафіі Маці Божай Фацімскай і святога Язафата Кунцэвіча і айцец Дзмітрый Занямонскі з Мінскай парафіі святых Апосталаў Пятра і Паўла і святога Яўгена дэ Мазэно з'яўляюцца прадстаўнікамі манаскага ордэна, галоўная харызма якога – паказаць Хрыста і Яго Валадарства найбольш пакінутым.

14 верасня ўвесь Каталіцкі Касцёл адзначаў свята Узвышэння Святога Крыжа. У гэты дзень на парафіяльную ўрачыстасць у Шаркаўшчыну прыбыў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч. Урачыстая святая Імша з нагоды фэсту і заканчэння аднаўлення Місій распачалася а 11-й гадзіне. Нягледзячы на працоўны дзень сярод тыдня, касцёл быў цалкам запоўнены вернікамі.

У набажэнстве прынялі ўдзел таксама і прадстаўнікі мясцовай улады: намеснік старшыні райвыканкама Ірэна Бука, начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Людміла Стома, начальнік Шаркаўшчынскага ўчастка паштовай сувязі Таццяна Шыняўская.

На самым пачатку біскуп Віцебскі, які і ўзначаліў святочную Эўхарыстыю, звярнуўся да прысутных: "Сёння важная падзея не толькі для парафіі, але і для ўсяго горада: будзе асвечаны знак на месцы былога касцёла, які павінен прыпамінаць нам, што каталіцкая вера тут мае глыбокія карані і каб мы памяталі пра тое, што зрабілі нашы продкі і што мы павінны захаваць веру і перадаць яе наступным пакаленням".

Слова да вернікаў прамовіў місіянер а. Анджэй, які засярodзіў увагу прысутных на ролі крыжа ў жыцці чалавека.

На заканчэнне Імшы адбылося выстаўленне Святых Дароў і Эўхарыстычная працэсія вакол святыні. А затым усе святары і вернікі рушылі працэсіяй на месца, дзе калісьці быў пабудаваны, а затым знішчаны каталіцкі храм.

"Вялікая радасць сёння, што мы дажылі да той хвіліны, калі на гэтым месцы, дзе быў касцёл, дзе збіраліся на малітву нашы продкі, паўстаў помнік. Вельмі мала засталося людзей, якія памятаюць той касцёл, што ўпрыгожваў Шаркаўшчыну да 1963 года. Можна разбурыць пабудаваны касцёл з цэглы і каменю, але нельга разбурыць веру, якую мы атрымалі ад нашых продкаў", – сказаў пробашч парафіі кс. Кшыштаф Сілкоўскі.

Гісторыя Шаркаўшчынскай парафіі пачынаецца з XVI стагоддзя, калі ў маёнтку Чырвоны Бор пабудавалі капліцу, фундатарам якой быў Сапега. З XVI па XIX стагоддзе Шаркаўшчына з'яўлялася часткай парафіі ў Новым Пагосце. Дзякуючы намаганням кс. Пятра Валюшкіна і парафіян касцёл у мястэчку Старая Шаркаўшчына пачалі будаваць у 1902 годзе. Ён знаходзіўся прыкладна на месцы, дзе зараз пабудаваныя Белпошта і Белаграпрамбанк. Асвяцілі касцёл у 1907 годзе ў гонар Узвышэння Святога Крыжа. З гэтага часу пачынаецца гісторыя менавіта Шаркаўшчынскай парафіі. Па ўспамінах мясцовых жыхароў касцёл быў 20 метраў у вышыню, 13 метраў у шырыню, 30 метраў у даўжыню. Святыню будавалі з дрэва, без цвікоў, яна мела тры вежы, дах, пакрыты бляхай. У 1910-1916 гг. парафія налічвала 2700 чалавек. Дзейнічаў касцёл да 1948 года. Потым быў зачынены савецкімі ўладамі, выкарыстоўваўся пад зернясховішча. У 1963 годзе храм знішчылі.

Пасля адкрыцця помніка і яго асвячэння сваё слова да прысутных скіраваў біскуп Алег: "Месцы, дзе Бог прапануе нам спатканне з Сабою, – гэта хрысціянскія святыні. Там, дзе Бог гэтае месца адзначае і Сабе абірае, усё павінна быць увесь час шанаванае. Заўсёды былі, ёсць і, напэўна, будуць сілы, якія імкнуцца гэта месца зруйнаваць і знішчыць. Мы перажылі ўжо час пераследу, калі шмат святыняў было знішчана. Але сённяшняя падзея прыгадвае моц Божай прадбачанасці, у якой Ён заўсёды бароніць Сваю святасць, Сваіх дзяцей і іх веру. Няхай гэты знак нагадвае пра нашыя карані, пра абавязак бараніць веру, жыць паводле яе і перадаваць яе сваім нашчадкам".

На ўрачыстасці таксама прысутнічаў Мікалай Латышонак, які памятае той касцёл і разам з сябрамі захаваў дванаццатую Стацыю Крыжовага шляху з гэтага драўлянага храма, якая цяпер размешчана ў парафіяльнай святыні. Біскуп Алег і пробашч кс. Кшыштаф выказалі падзяку спадару Мікалаю.

Назаканчэнне на памятным месцы прагучаў хрысціянскі гімн "Магутны Божа".

## Жыццёвыя гісторыі ад Алены Пажогі

### Не толькі пра кабачкі

Неяк рабіла нарыхтоўкі з кабачкоў і прыпомніла, як гадоў дзесяць таму таксама марынавала кабачкі ды агледзелася, што малавата воцату. Адправіла свайго малодшанькага ў краму. Дала яму 10 тысяч (на той час гэта былі грошы!) і сказала, што можа купіць яшчэ сабе вафельку ці шакаладны батончык.

Неўзабаве сынок вярнуўся дамоў і з парога горда – першая ж самастойная пакупка – аб'явіў: "Купіў бутэльку воцату і пяць батончыкаў. Для ўсіх!"

Сварыцца на малога не стала – хацеў жа як лепш. Думаў не толькі пра сябе, а пра ўсю сям'ю.

### Дробязь

У крамах прадавачкі часта просяць пакупнікоў знайсці капейкі, бо няма чым даць рэшту. Праблема. Але сёння я не пра гэта хачу сказаць.

Нядаўна стаяла ў чарзе і стала сведкай, як на просьбу прадавачкі пашукаць капейкі за жанчыну, у якой іх не знайшлося, адгукнулася яе знаёмая, выручыла. А потым гэта кабета падышла да сваёй "ратаўніцы" і расказала, што аднойчы ў "Еўраопце" пры разліку на касе ў яе не хапіла рубля і пятнаццаці капеек. Ёй стала вельмі сорамна. Пачала ліхаманкава думаць, што з прадуктаў адкласці. У гэты момант малады мужчына запытаў: "Колькі Вам не хапае? Я даплачу". Бабулька пачала аднекваацца, а мужчына сказаў: "Я часта так раблю, калі бачу, што пажылому чалавеку не хапае на прадукты. Гэта ж дробязь!" Аддаў неабходную суму касіру, дапамог незнаёмцы.

Дробязь? Сапраўды, дробязь. Але святая Маці Тэрэза з Калькуты нас вучыць, што неабавязкова рабіць вялікія справы, дастаткова выконваць малыя з вялікай любоўю.

### Бацькава хата як ратунак

Размаўляюць тры мужчыны нападпітку. Адзін з іх скардзіцца сябрам: "Вось прыйду дамоў, а там дзве міліцэйскія формы вісяць. У мяне ж адзін сын – старшына, а другі – лейтэнант. Вось і вісяць у хаце дзве формы. А вы ж ведаеце, што для мяне ўбачыць гэту форму! Дык я тады лепш іду ў бацькаву хату, працеплю там печку, пасяджу спакойна. Там на сцяне бацькаў партрэт вісіць, я з ім пагавару".

# Новы крыж у Мосары



**12 верасня на Крыжовай дарозе ў Мосары Глыбоцкага раёна з'явіўся яшчэ адзін крыж.**

Устанавіла яго місіянерская група, што дзейнічае пры парафіі Маці Божай Фацімскай у Баранавічах, у гонар 25-годдзя свайго існавання. Асвяцілі крыж кс. Марат Казлоўскі, пробашч парафіі Святой Ганны ў Мосары, і а. Конрад Патыка, кусташ санктуарыя Маці Божай Фацімскай у Баранавічах.

Да святкавання юбілею можна падысці па-рознаму і пры сучасных магчымасцях людскіх зносін правесці не толькі вечарыну з урачыстымі прамовамі, нават шоу. Але калі па-сапраўднаму служыш місіянерскай справе, то сэнс свята ўяўляеш сабе зусім інакш, і позірк сэрца часцей за ўсё прыпыняецца на крыжы – сімвале жыцця.

Удзячныя Богу за магчымасць на працягу 25 гадоў актыўна падтрымліваць місіянераў, мы вырашылі ўстанавіць крыж на Крыжовай дарозе ў Мосары. Сюды, на мосарскую Кальварыю, якая створана ўжо ў нашыя часы і нашымі сучаснікамі, накіроўваюцца сотні пілігрымаў з усёй Беларусі, з замежжа, каб штосьці асэнсаваць у сваім жыцці і нешта перагледзець, суаднесці падзеі з сутнасцю самога крыжа, з якога ўсё пачыналася, у якім усё працягваецца і з якім скончыцца зямное жыццё…

Наша місіянерская група нарадзілася ў 1993 годзе, калі ў Баранавічах была створаная парафія Маці Божай Фацімскай і пробашчам стаў кс. Ежы Мазур SVD – сёння біскуп Элцкі (Польшча). Пятнаццаць жанчын, а з імі і мужчыны вырашылі тады маліцца за місіянераў – за тых, хто нясе Слова Божае людзям, яшчэ далёкім ад Езуса.

Трэба адзначыць, што час стварэння групы супаў з перыядам узвядзення храма, таму мы збіраліся на малітвы спачатку на кватэры ў Ядвігі Моўчан, якая стала кіраўніком групы, а пасля – ва ўсіх жанчын па чарзе. Асабліва старанна рыхтаваліся мы да Тыдня малітваў за місіянераў, што звычайна праходзіць у трэці тыдзень кастрычніка. Падрыхтоўка ішла не толькі малітоўная. Мы рыхтавалі вырабы з гіпсу – фігуркі Маці Божай, Езуса Хрыста, Святой Сям'і, анёлкаў – і на працягу тыдня выстаўлялі іх перад святой Імшой. Парафіяне любаваліся фігуркамі, выбіралі нешта для сябе і ў скарбонку кідалі ахвяраванні, якія ішлі на патрэбы місій.

Мы маліліся штодня на Ружанцы, удзельнічалі ў святой Імшы, а ў нядзелю славілі Бога тры разы – раніцай, у абед і вечарам. Прычым малітву чыталі звычайна на пяці мовах: Тэрэса Крупіна – на лацінскай, Валерый Барыс – на ўкраінскай, Ядвіга Шкут – на беларускай, Ядвіга Аляксеева – на рускай і Яніна Гаўдзіс – на польскай.

Традыцыя жыве і сёння. Кожны аўторак мы збіраемся разам, каб накіраваць Богу словы малітвы: "Божа, Які хоча збавіць усіх людзей і прывесці іх да пазнання праўды, пашлі місіянераў на жніво Сваё, каб нястомнай стараннасцю яны абвяшчалі праўду Твайму народу. Праз Хрыста, Пана нашага. Амэн".

Кожны аўторак пасля вячэрняй службы просім Бога ў малітве за ўсіх місіянераў, якія нясуць служэнне на місіях. Молімся за семінарыстаў, каб сталі добрымі місіянерамі, за новыя пакліканні, за памерлых святароў і вернікаў. Разам з намі моліцца наш пробашч кс. Конрад Патыка, кусташ санктуарыя Маці Божай Фацімскай.

Настаў доўгачаканы вераснёўскі дзень, і перш чым падняцца на мосарскую Кальварыю, мы накіраваліся ў касцёл Святой Ганны, каб прыняць удзел у Эўхарыстыі. Падчас святой Імшы была асвечана памятная таблічка, якую належала прымацаваць да крыжа, і праз некаторы час мы апынуліся на самай высокай гары Глыбоччыны, катора дзякуючы светлай памяці кс. Юозаса Булькі стала месцам паломніцтваў. Углядаемся ў абшар навокал, і перад вачыма разгортваецца такая натуральная прыгажосць!

Ахоплівае пачуццё вечнага існавання гэтай зямлі, гэтых нябёсаў, гэтага паветра і… Крыжа! Крыжа, на якім быў укрыжаваны Езус Хрыстус, які з'яўляецца сімвалам хрысціянскага жыцця, які падкрэслівае прысутнасць Хрыста ў нашым жыцці сёння. Вялікая колькасць крыжоў, устаноўленых ад сем'яў, ад тых пакаленняў, якія пражывалі калісьці ў гэтай мясцовасці, ад парафій і вёсак, ад розных суполак і асобных людзей, зноў падштурхоўвае сэрца да разважання пра тое, што ёсць вечнае ў створаным Богам Сусвеце, пра сутнасць Хрыстовай веры і пра сутнасць нас, хрысціян цяперашняга часу. Перачытваем таблічкі з надпісамі, зробленымі на беларускай, польскай, рускай, літоўскай, галандскай і іншых мовах, і зноў падыходзім да "свайго" крыжа.

Праект прапанаваў брат Карнэлій Консэк SVD, а ажыццяўлялі яго ўсёю супольнасцю. І вось стаіць наш крыж сярод іншых крыжоў – масіўны, вялікі; бы сусвет, у зробленым у ім праёме зіхаціць бронзавая расліна. Расліна – гэта жыццё, якое пульсуе, яе лісты – гэта кантыненты свету, на якіх жывуць такія ж, як і мы, людзі і таксама імкнуцца да збаўлення. Але няма іншага шляху да збаўлення, як толькі праз крыж.

Наш крыж пазначаны таблічкай ад місіянерскай групы, а на ёй надпіс: "Калі пшанічнае зерне, упаўшы ў зямлю, не памрэ, то застанецца адно, а калі памрэ, то прынясе багаты плён" (Ян 12, 24). Менавіта дзеля гэтага плёну наша група існуе, дзейнічае і моліцца штодня, спадзеючыся на Бога і дзякуючы Яму за магчымасць рэалізаваць нашае місіянерскае пакліканне.

***Раіса Сушко** –*
*ад імя місіянерскай групы, што дзейнічае пры санктуарыі Маці Божай Фацімскай у Баранавічах*

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета***
***"Каталіцкі Веснік"***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 10 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч***
***Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

## Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

***Рэдакцыя***
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |



# Дзень духоўных сустрэч у Расонах

**Расоны – гэта мястэчка, якое налічвае каля пяці тысяч жыхароў. Тут існуе парафія пад тытулам св. Язафата Кунцэвіча. 18 верасня 2010 года адбылася кансэкрацыя новапабудаванага касцёла.**

**Марына Сінкевіч**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

13 верасня 2017 года ўпершыню адбылася сустрэча духавенства і кансэкраваных асобаў у гэтай парафіі. Паўсотні святароў і больш за дзесяць законных сясцёр з Віцебскай дыяцэзіі – гэтай колькасці людзей хапіла, каб святыня стала цалкам запоўненай.

Сустрэча распачалася выстаўленнем Найсвяцейшага Сакраманту і асабістай адарацыяй у цішыні. Урачыстую св. Імшу цэлебраваў біскуп Алег Буткевіч, які на самым пачатку прывітаў прысутных духоўных асобаў, але і таксама двух новых святароў, што распачалі працу ў Віцебскай дыяцэзіі: кс. Аляксея Ляшко, вікарыя парафіі св. Антонія Падуанскага ў Віцебску, і а. Вадзіма Мізера MIC, новапрызначанага пробашча парафіі св. Юзафа ў Оршы.

У казанні віцебскі ардынарый звярнуў увагу на аўтарытэт святара. "У духоўным сэнсе мы (святары) з'яўляемся сябрамі Езуса, а ў выкананні свайго паклікання павінны быць Яго слугамі. У сучасным свеце многія з нас карыстаюцца аўтарытэтам тых святароў, якія працавалі раней. Але час ідзе, старэйшае пакаленне адыходзіць, і тая памяць пройдзе. І цяпер абавязак і праца кожнага з вас – паказваць добры прыклад і ствараць аўтарытэт святара". Таксама іерарх працытаваў словы св. Яна Паўла II з кнігі "Дар і таямніца" пра тое, што святар з'яўляецца толькі распарадчыкам, а не ўладальнікам Божых таямніцаў, якому Галоўны Уладальнік давярае свае багацці, каб справядліва і адказна імі распараджацца.

"Просім ласкі заступніцтва святых Язафата Кунцэвіча і Яна Хрызастома, каб іх заступніцтва дапамагала нам памятаць пра адказнасць, што мы ўзялі на сябе", – на заканчэнне гаміліі заклікаў біскуп Алег.

Пасля Эўхарыстыі адбылася канферэнцыя, якую прамовіў айцец Станіслаў Памыкала. Ксёндз-езуіт закрануў тэму "прабачэння". Святар асаблівым чынам звярнуў увагу сваіх сабратоў у святарстве на ўменне даравацьь. "Калі няма здаровых адносін з людзьмі і Богам, гэта значыць, мы не ўмеем прабачыць людзям і Богу. А калі няма прабачэння – нічога не дапаможа", – падкрэсліў святар.

На заканчэнне сустрэчы зрабілі аб'явы для парафій і асабіста для святароў. Біскуп Алег нагадаў, што распачаўся катэхетычны год і заклікаў святароў, каб ва ўсіх парафіях па магчымасці адбываліся катэхезы не толькі для дзяцей, але і для дарослых.

Наступная сустрэча пройдзе 11 кастрычніка ў Удзеле.

# Анёл-ахоўнік доктара Яцыны



**На тэрыторыі докшыцкай бальніцы была асвечаная выява анёла. Асвячэнне адбылося ў сераду, 30 жніўня.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

Ідэя ўстаноўкі гэтай выявы належыць урачу Казіміру Яцыну, які ўжо тры гады працуе ў Докшыцах. Падобнага анёла ён таксама ўсталяваў, калі працаваў у глыбоцкай бальніцы.

Сам Казімір Вацлававіч так патлумачыў сутнасць сваёй ідэі:

– Анёл – гэта сімвал таго, што нас яднае з Панам Богам. Каб аддзячыць гэтым людзям, сваім калегам па працы, я вырашыў паставіць помнік як памятку пра тых, што тут працавалі, што зараз працуюць, якія будуць тут працаваць. Падзякаваць Пану Богу за тое, што я тут тры гады адпрацаваў. Каб гэты анёл аберагаў усіх людзей, якія тут працуюць, і хворых, якія тут ляжаць.

Выяву анёла асвяціў пробашч Докшыцкай парафіі айцец Андрэй Букштан. На гэту ўрачыстасць сабраліся работнікі бальніцы. Перад тым, як правесці непасрэдна абрад асвячэння, айцец Андрэй звярнуўся да супрацоўнікаў лякарні. Ён адзначыў, што пакліканне святара і ўрача ў нечым падобнае:

– Заўсёды гэта падабенства ў любові. Бо сутнасцю любові ёсць служэнне іншаму чалавеку. Калі мы збіраемся на благаслаўленне выявы анёлаў, якія створаныя для таго, каб служыць чалавеку, то ў нейкай ступені таксама з'яўляемся анёламі, каторыя пасланыя да людзей у цярпенні, людзей хворых, якім патрэбныя наша прысутнасць, наша ўсмешка, наша добрае слова, разуменне таго, што мы іх можам заўважыць і дапамагчы.

Усе прысутныя разам са святаром і сёстрамі законнымі, што таксама прымалі ўдзел у гэтай урачыстасці, памаліліся літаніяй да анёлаў. Потым айцец Андрэй асвяціў выяву анёла.

Напрыканцы Казімір Яцына падзякаваў усім людзям, хто дапамог яму з ажыццяўленнем яго ідэі, а асаблівую падзяку ён выказаў загадчыку гаспадаркі бальніцы Канстанціну Раслевічу. Той, у сваю чаргу, адзначыў, што яму ў гэтым дапамагла ахвярнасць нашых людзей, якія горача падтрымалі ідэю. Таксама ён пажадаў усім не забывацца ў сваім жыцці пра Бога:

– За апошнія два гады ў нас адбыліся дзве падзеі. Першае – гэта ў мінулым годзе ў парку адпачынку для хворых быў усталяваны абраз нябеснага заступніка медыцыны святога Панцеляймона. А сёлета вось гэты анёл. Тут у першую чаргу заслуга Казіміра Вацлававіча, бо гэта яго ідэя, а мне як загадчыку бальнічнай гаспадаркі давялося задуму ажыццяўляць. І дай нам, Божа, усім быць з Богам.

Даволі часта можна пачуць меркаванне, што медыкі не з'яўляюцца веруючымі людзьмі. Але доктар Яцына з гэтым не згодны:

– Усе ўрачы – гэта людзі з глыбокай верай. Бо дар лячэння людзей дае чалавеку толькі Бог. І натхненне, і пазнанне, і міласць, і дабрату, і жаданне дапамагчы людзям. Таму я – вернік, хаджу ў касцёл, малюся Богу.

Несумненна, асвечаная выява будзе ахоўваць і тых, хто працуе ў гэтай бальніцы, і хворых, што будуць звяртацца сюды па дапамогу.



# “Каб Беларусь стала месцам, дзе жыве Бог”: біскуп Алег Буткевіч наведаў Варапаеўскую парафію

**Пастырская візітацыя праходзіла на працягу двух дзён – 26 і 27 жніўня. У першы дзень свайго візіту іерарх наведаў вясковыя капліцы, якія размешчаныя на тэрыторыі парафіі. Галоўная Імша ў варапаеўскім касцёле адбылася а 10-й гадзіне ў нядзелю, 27 жніўня.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*



Каб сустрэць свайго пастыра, усе вернікі выйшлі з касцёла. Кандыдаты да канфірмацыі – 22 асобы – сталі па абодва бакі шляху, дзе павінен быў прайсці іерарх. Разам з біскупам у Варапаева прыбыў і ксёндз Павел Самсонаў, які з'яўляецца дэканам Пастаўскага дэканата.

Па традыцыі іерарха сустрэлі хлебным караваем і кветкамі. Здавалася, што прыезду біскупа радаваліся не толькі вернікі, але і само надвор'е, якое ў гэты дзень было выдатным. Біскуп акрапіў прысутных святой вадой і ўрачыста ўвайшоў у храм.

На пачатку святой Імшы іерарха прывітаў пробашч парафіі ў Варапаеве ксёндз Ежы Вільк. Ён распавёў пра гісторыю парафіі. Сёлета спаўняецца 85 гадоў, як у Варапаеве быў асвечаны першы касцёл. Было гэта ў 1932 годзе, калі дзякуючы будаўніцтву чыгункі з Варапаева ў Друю гэтае паселішча стала актыўна развівацца.

Праўда, лёс першай святыні, як і шмат якіх іншых храмаў Беларусі, быў трагічным. Касцёл дзейнічаў толькі 17 гадоў – з 1932-га па 1949-ы, а потым быў забраны ў вернікаў савецкай уладай. Праз дзесяць гадоў на загад уладаў святыню наогул разабралі, а на яе месцы пабудавалі Дом культуры.

Парафія пачала адраджацца толькі напрыканцы XX стагоддзя, калі змянілася дзяржаўная палітыка ў адносінах да веры. Першую Імшу адправілі ў Варапаеве на Божае Нараджэнне ў 1990 годзе. Тады яшчэ тут не было храма, і набажэнства прайшло ў непрыстасаваным для гэтага будынку.

Першым святаром, які пачаў адраджэнне парафіі, быў ксёндз Юозас Булька. Па яго ініцыятыве створылі тады касцельны камітэт, правялі вялікую працу па падрыхтоўцы дакументаў. Потым пачалося будаўніцтва святыні. Дарэчы, праект касцёла ў сціслыя тэрміны зрабіў грамадзянін Польшчы, які з'яўляецца ўраджэнцам гэтай парафіі. Прычым зрабіў гэта не толькі хутка, але і за сімвалічную плату. 90-я гады – час суцэльнага дэфіцыту, цяжка было знайсці будаўнічыя матэрыялы, але агульнымі намаганнямі з Божай дапамогай святыню пабудавалі. У 1997 годзе храм у Варапаеве кансэкраваў кардынал Казімір Свёнтэк.

Ксёндз Ежы Вільк узгадаў усіх святароў, якія тут працавалі, і падзякаваў ім за працу. Сам ксёндз Ежы служыць тут з 2015 года, спачатку вікарыем, а з мінулага года пробашчам парафіі. Ён адзначыў, што шмат удалося зрабіць дзякуючы ахвярнасці людзей. Святар таксама заўважыў, што ў парафіі шмат моладзі, а гэта дае надзею на будучыню.

Біскуп у сваім прывітальным слове звярнуў увагу на тое, што парафія мае тытул святога Міхала Арханёла, а гэты Анёл ёсць нябесным заступнікам усёй Беларусі. І імя святога азначае “Хто ж, як не Бог”. Іерарх выказаў радасць з таго, што храм цалкам запоўнены вернікамі, прычым не толькі фізічна, але і любоўю нашых сэрцаў. Ён пажадаў усім, каб з Божай любоўю і заступніцтвам Міхала Арханёла мы маглі пераадолець усе жыццёвыя перашкоды.

Пасля прывітальных слоў распачалася святая Імша, якую ўзначаліў віцебскі ардынарый. У сваім слове да вернікаў іерарх звярнуў увагу на тое, што дваццаць гадоў – малады ўзрост для чалавека, а для храма і ўвогуле юны. Але гісторыя Касцёла на гэтай зямлі не абмяжоўваецца двума дзесяцігоддзямі, бо пачалася яна значна раней. На жаль, трагічны лёс закрануў не толькі сам будынак, але і саміх вернікаў.

І ўсё ж няма такой сілы, якая змагла б знішчыць Касцёл на нашай зямлі, ён змог перажыць трагічныя часы і адрадзіцца. З гэтай нагоды біскуп Алег узгадаў словы Езуса Хрыста, скіраваныя апосталу Пятру: “Ты Пётр – скала, і на гэтай скале Я збудую Касцёл Свой, і брамы пякельныя не змогуць яго знішчыць”.

Іерарх узгадаў, як Езус пытаўся ў апосталаў, кім яны Яго лічаць? Гэтае пытанне актуальнае і для нас, хто жыве ў XXI стагоддзі і таксама шукае Бога. Сакрамант хросту, які мы прымаем у малым узросце, азначае нашу прыналежнасць да хрысціянскай супольнасці. Але гэтага мала. Таму, прымаючы сакрамант канфірмацыі, мы бяром на сябе адказнасць перад Касцёлам за вызнаванне веры. Адказнасць не толькі за сябе, але і за іншага чалавека.

Для нас, сучасных людзей, выклікам застаецца вызнаванне веры па-за межамі касцёла. Таму сучасны свет як ніколі патрабуе такіх мужных людзей. Мы жывём, пастаянна адчуваючы дэфіцыт часу. Нам не стае яго для нашых бацькоў, нашых дзяцей, нашых блізкіх. А Бог часта наогул адыходзіць на другі план. А вось калі мы знаходзім яго для малітвы, для святой Імшы або каб проста ўкленчыць і перахрысціцца, то гэта вялікая ахвяра перад Богам, і Ён нам заўсёды за гэта аддзячыць.

Біскуп заклікаў вернікаў шанаваць працу святароў і сясцёр, заўсёды маліцца ў іх інтэнцыі. Ён падзякаваў за тыя пакліканні, якія паходзяць з гэтай зямлі і адзначыў, што іх ніколі не бывае зашмат. Трэба маліцца, каб іх было яшчэ больш. Прычым іерарх адзначыў, што кожны чалавек мае сваё пакліканне для нейкай справы, у тым ліку і для сямейнага жыцця. “Пакліканне не з'яўляецца з неба, – падкрэсліў ардынарый, – яно залежыць у першую чаргу ад атмасферы, якая пануе ў сям'і”. Ён заклікаў маліцца за тое, каб кожны сённяшні сакрамант канфірмацыі стаў для вернікаў знакам паяднання з Богам: “Просім гэтай ласкі, каб кожны з нас стаў мужным вызнаўцам веры, каб Беларусь, якая прайшла праз усе гэтыя выпрабаванні, стала сапраўдным домам і месцам, дзе жыве Бог”.

Пазней біскуп удзяліў сакрамант канфірмацыі, або хрысціянскай сталасці вернікам Варапаеўскай парафіі. Затым адбылася працэсія з дарамі. Іерарху паднеслі свечку як сімвал Божага святла, ружанец, Біблію, кветкі і садавіну як знак прыгажосці і шчодрасці зямлі, хлеб як сімвал жыцця, а таксама гостыю, віно і ваду, якія падчас Эўхарыстыі ператвараюцца ў Цела і Кроў Хрыста.

Напрыканцы Імшы біскуп Алег асвяціў крыжыкі, якія потым былі ўручаныя кожнаму, хто прыняў у гэты дзень сакрамант канфірмацыі. Вернікі ўручылі свайму пастыру карціну з выявай касцёла, каторую напісаў мясцовы мастак. Таксама біскуп і пробашч атрымалі падзяку і кветкі ад тых, хто прыняў у гэты дзень сакрамант хрысціянскай сталасці.

Іерарх уручыў таксама лісты з падзякамі найбольш актыўным вернікам парафіі, якія шмат зрабілі для яе адраджэння ў Варапаеве.

Пасля Імшы адбыўся канцэрт, падрыхтаваны ансамблем народнай музыкі і песні “Заранка” з Паставаў. А напрыканцы ўсіх чакаў пачастунак на свежым паветры, дзе бадай самай галоўнай стравай была юшка з карпа.

А яшчэ вернікі маглі сфатаграфавацца з біскупам на памяць. Трэба адзначыць, што ахвотных было шмат і біскуп нікому не адмаўляў. Фотасесія з іерархам зацягнулася амаль на паўгадзіны.





# І кветкі хваляць Пана:

## у Росіцы ўтрэці раз прайшло свята кветак і ўраджаю

**Сёлетняе свята супала з дзесяцігадовым юбілеем служэння ксяндза Чэслава Курэчкі ў Росіцы. Каб павіншаваць айца Чэслава і прыняць удзел у святочным набажэнстве, у Росіцу прыехала шмат святароў і вернікаў.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст і фота;* **Леанід Юрык**, *фота*

Перад святой Імшой айцец Сяргей Мацюшонак пазнаёміў вернікаў з жыццёвым шляхам святога Францішка Азіскага, які жыў на мяжы XII – XIII стагоддзяў і быў вядомы сваёй пашанай да ўсяго жывога. Гэтага святога можна лічыць апекуном жывой прыроды. У Росіцы ўзгадаць імя святога было асабліва актуальным, бо айцец Чэслаў зрабіў за гэтыя дзесяць гадоў для таго, каб тутэйшая зямля стала яшчэ прыгажэйшай.

Урачыстую святую Імшу ўзначаліў канцлер Віцебскай дыяцэзіі ксёндз Віктар Місевіч, слова да вернікаў прамовіў айцец Сяргей Мацюшонак. У сваім слове святар узгадаў найперш подзвіг двух айцоў-марыянаў – Антонія Ляшчэвіча і Юрыя Кашыры. Гэтыя ксяндзы маглі застацца жывымі, але яны падзялілі лёс сваіх вернікаў. Святары да канца засталіся з жыхарамі Росіцы, сярод якіх былі людзі як вернікі, так і тыя, хто не верыў, і добраахвотна пайшлі разам з імі ў агонь.



Нагадаем, зімой 1943 года карнікі праводзілі аперацыю супраць партызан, калі было спалена шмат вёсак разам з людзьмі. Не мінуў гэты трагічны лёс і Росіцу, дзе ў агні загінула амаль паўтары тысячы чалавек. Карнікі хацелі адпусціць ксяндзоў, але яны свядома засталіся разам з вернікамі.

"Гэтыя святары не былі супергероямі або нейкімі незвычайнымі людзьмі, – адзначыў айцец Сяргей, – але яны дазволілі Богу дзейнічаць праз іх. Вядома, я нікому не пажадаю патрапіць у такую сітуацыю, калі давядзецца выбіраць паміж жыццём і смерцю, але варта ў такіх выпадках даверыцца Богу і дазволіць Яму дзейнічаць праз нас. Часта, калі здараецца нейкае няшчасце, мы пачынаем наракаць на Бога за тое, што Ён нас пакінуў. Але Бог якраз у такіх сітуацыях знаходзіцца найбліжэй да нас. Трэба толькі мець у сабе моцны падмурак веры". З гэтай нагоды святар прывёў урывак з Евангелля ад Лукі, які чытаўся падчас Імшы, дзе Езус кажа сваім вучням: "Што вы клічаце Мяне: "Пане, Пане", а не выконваеце таго, што Я кажу? Я пакажу вам, да каго падобны кожны, хто прыходзіць да Мяне, слухае Маё слова і выконвае яго. Ён падобны да чалавека, які, будуючы дом, глыбока выкапаў і заклаў падмурак на скале. Калі здарылася паводка, паток хлынуў на гэты дом, аднак не змог пахіснуць яго, таму што ён быў добра збудаваны. А той, хто слухае і не выконвае, падобны да чалавека, які збудаваў дом на зямлі без падмурка. Паток хлынуў на яго, і ён адразу абваліўся, і вялікае было падзенне дома гэтага". Таму хай прыклад блаславёных мучанікаў Антонія і Юрыя дапамагае нам мець гэты падмурак веры ў жыцці, каб з Росіцы мы вярталіся ўзмоцненыя духам.

Напрыканцы Імшы а. Чэслаў падзякаваў усім святарам і пілігрымам, што прыбылі ў гэты дзень у Росіцу. Гэта госці з бліжэйшых і далёкіх парафій: з Сар'і, Бігосава, Верхнядзвінска, Асвеі, Друі, Глыбокага, Полацка, Віцебска, Браслава, усіх і не пералічыць. Святар запрасіў прысутных на грыбную поліўку, якую ён варыць паводле свайго адмысловага рэцэпту.

Пілігрымы з Друйска і Друі падарылі пробашчу карціну, дзе змешчаныя выявы святых мучанікаў ксяндзоў Антонія Ляшчэвіча і Юрыя Кашыры.

Перад блаславеннем, якое ўдзяліў вернікам ксёндз Віктар, ён перадаў усім прывітанне ад біскупа Віцебскай дыяцэзіі Алега Буткевіча. А апекуну Росіцкага санктуарыя пераказаў асаблівую падзяку, адзначыўшы, што за яго працу яму трэба залічыць год за два, а можа, нават і за тры. Бо менавіта дзякуючы працы святара гэта спаленая зямля змагла зноў расквітнець.

Закончылася набажэнства спевам "Малюся за цябе, Беларусь". А ўсіх гасцей яшчэ чакаў пачастунак на свежым паветры.



# Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч прыняў удзел у малітве за загінулых супрацоўнікаў ДАІ

**16 верасня ў сталічнай Усіхсвяцкай царкве Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч прыняў удзел у цырымоніі закладкі капсулы з зямлёй з месцаў спачыну супрацоўнікаў Дзяржаўтаінспекцыі МУС Беларусі, якія загінулі падчас выканання службовых абавязкаў, і ў малітве за іх.**

Прамаўляючы ў царкве, арцыбіскуп нагадаў, што клопат пра захаванне бяспекі на дарогах з'яўляецца вельмі важным і параўнаў Божыя запаведзі з дарожнымі знакамі, якія, нібы чырвонае святло святлафора, абегараюць чалавека ад граху. Таксама Мітрапаліт прачытаў малітву "Анёл Пански" за спачылых супрацоўнікаў ДАІ.

Цырымонія адбылася ў межах мерапрыемстваў, прымеркаваных да 100-годдзя міліцыі Беларусі, а таксама да 81-й гадавіны з дня ўтварэння ДАІ МУС.

Закладка капсулы адбылася ў знак удзячнасці тым, хто цаной уласнага жыцця ўстаў на абарону жыцця і здароўя грамадзян, захоўваючы бяспеку на дарогах Беларусі, абараняючы спакой і парадак у краіне.

Зямля, змешчаная ў капсулу, узятая з месцаў спачыну супрацоўнікаў ДАІ, загінулых падчас выканання імі службовых абавязкаў. Такім чынам у крыпце Усіхсвяцкай царквы ўвекавечылі памяць 34 супрацоўнікаў, загінулых за 81 год існавання ДАІ МУС.

*catholic.by, Фота: кс. Кірыл Бардонаў*



# Тэст: пазнайце, што за літургічны прадмет

**Прайдзіце новы тэст "Каталіцкага Весніка", які пакажа, ці добра вы ведаеце літургічныя рэчы.**

1 Як называюцца невялікія начынні для віна і вады?



А. Ампулкі
Б. Бутэлечкі
В. Збаночкі

2 Дзе ў касцёле захоўваецца Найсвяцейшы Сакрамант?



А. У закрыстыі
Б. У табэрнакулюме
В. У апсідзе

3 Гэты літургічны прадмет заўсёды ўжываецца падчас адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту.



А. Манстранцыя
Б. Цыборый
В. Віятык

4 Якую назву мае вялікая свечка, што захоўваецца каля алтара і запальваецца падчас удзялення сакраманту хросту?





А. Імшальная
Б. Пасхал
В. Хросная

5 Гэтая рэч выкарыстоўваецца падчас абраду акраплення святой вадой.



А. Лаваба
Б. Крапідла
В. Ліція

6 Як называецца гэта рэч, якую можна ўбачыць падчас эўхарыстычнай працэсіі над святаром з Найсвяцейшым Сакрамантам?



А. Вэлюм
Б. Накрыўка
В. Балдахін

7 У касцёле гэты сасуд выкарыстоўваюць для таго, каб захоўваць у ім рэліквіі святых.



А. Рэліквярый
Б. Святы посуд
В. Була

8 Такім ручніком святар выцірае келіх.



А. Пурыфікатар
Б. Карпарал
В. Парузія

*Падрыхтавала Ірына Радзевіч*

**Правільныя адказы глядзі на стар. 16**



# Ксёндз Вадзім Сурвіла расказаў гісторыю свайго паклікання

**У сённяшнім нумары "Каталіцкага Весніка" пра сваё пакліканне чытачам распавёў пробашч Войстамскай парафіі кс. Вадзім Сурвіла.**

**Ірына Радзевіч**

Святар нарадзіўся ў 1986 годзе ў вёсцы Гаўці на Гродзеншчыне. Пра сябе ён адразу расказвае такую цікавую гісторыю: "Я нарадзіўся на Вялікдзень. Мой тата прыехаў дамоў з касцёла а асвечанымі стравамі. А мама толькі пакаштавала – і адразу ў радзільню" *(усміхаецца)*!

З Гаўцяў да Солаў кіламетраў восем, таму ў касцёл будучы святар ездзіў то роварам, то машынай з бацькамі.

Першыя ўражанні ад касцёла ў маленькага хлопчыка Вадзіма былі такія: ***"У касцёле праходзіла чыясьці Першая Камунія. На адной з амбон былі змешчаны словы песні. І стаяла такая доўгая ўказка.А я падумаў, што калі хтосьці з дзяцей будзе сябе дрэнна паводзіць, то манахіня паб'е гэтай палкай. Таму я сядзеў ціхаціха падчас святой Імшы, а калі сястра брала ўказку ў рукі, нават не паварочваўся ні ўлева, ні ўправа".***

Больш пазнаваць Касцёл Вадзім пачаў, калі праходзіў падрыхтоўку да Першай Камуніі ў 1994 годзе. Тады ў вёскуГаўці прыязджалі айцы-кармеліты. Дзеці вучыліся і ў школе, і ў клубе, ад якіх нічога не засталося зараз, і ў дамах вернікаў.

Гледзячы на гэта ўсё, хлопчыку таксама захацелася быць падобным да ксяндзоў. Ён пачаў гуляць, нібы адпраўляючы святую Імшу, перавязваўся нейкімі рамянямі, нібы святарскай стулай. У 9-ым класе юнак вырашыў стаць міністрантам.

Святар успамінае пра сваё жаданне пайсці ў кляштар: ***"Пасля 10-га класа я быў на рэкалекцыях, якія праводзіліайцы-кармеліты ў Нарачы. Прыехаўшы дамоў, я сказаў бацькам, што збіраю рэчы і іду ў кляштар. Але прайшоў час, і я вырашыў інакш"...***

***"Пастаянна адчуваў, што мне хочацца служыць. Ужо ў 11-м класе разважаў пра гэта са сваім пробашчам. Ён даў мне кніжку з біяграфіямі святых. Цікава было, як Бог іх клікаў. Так паволі прачыналася і маё пакліканне".***

Пасля заканчэння 11-га класа Вадзім прыняў рашэнне пайсці ў семінарыю. Ужо падчас навучання семінарыста хвалявала шмат розных думак, узнікалі пытанні: "Ці пайсці з семінарыі?", "Ці застацца?" Тады адна манахіня, якая ўжо адышла ў вечнасць, адказала яму вельмі проста: "Дурань! Куды ты пойдзеш?! Заставайся!" Зараз святар ёй вельмі ўдзячны за гэтыя словы.

Добра памятае кс. Вадзім свае перажыванні перад пасвячэннем: ***"Ніколі так моцна ў жыцці я не хваляваўся, як перад сваім дыяканскім пасвячэннем, тады вельмі пахудзеў. Таксама і ўвечары, калі даведаўся, што стану святаром, мяне так перапаўнялі пачуцці, што я не мог заснуць".***

Сёння, гаворачы пра пакліканне, святар параўноўвае яго з дрэвам: ***"Неабходныя пэўныя ўмовы, каб яно, пакліканне, расло. Яго адчуваеш не адразу, яно паволі вырастае, саспявае і толькі пасля будзе даваць плён. Таму магу сказаць, што і маё пакліканне таксама прыйшло не адразу, а паступова, паволі".***

# Як Вы ацэньваеце свае веды па каталіцызме?

**На гэтае пытанне вернікі адказалі наступным чынам.**

Вынікі апытання на сайце Catholicnews.by і ў сацыяльных сетках: Facebook, Укантакце, Аднакласнікі:

- добра – 58 адказаў;
- здавальняюча – 49 адказаў;
- цудоўна – 19 адказаў;
- дрэнна – 14 адказаў.

**Усяго – 140 адказаў.**
**А як лічыце Вы?**



*Падрыхтавала Ірына Радзевіч*

# Каляндар на кастрычнік

**Кастрычнік – гэта асаблівы перыяд. Асаблівасць гэтая заключаецца ў тым, што на працягу ўсяго месяца вернікі Каталіцкага Касцёла моляцца на Ружанцы. І тым самым праслаўляюць Панну Марыю, давяраюць Ёй свае клопаты, праблемы, але таксама і дзякуюць за жыццёвыя радасці. Паважаныя чытачы, заахвочваем усіх Вас да ўдзелу ў штодзённых Ружанцовых набажэнствах ці ў касцёле, ці дома разам з роднымі і блізкімі. Маліцеся на Ружанцы!**

**7 кастрычніка – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі Ружанцовай.**

**18 кастрычніка – успамін святога Лукі, евангеліста.**

Евангеліст Лука быў антыяхійцам па нараджэнні і першапачаткова язычнікам паводле веравызнання. Прыняўшы веру Хрыста ў сталіцы Сірыі, будучы сведка-пісьменнік сустрэўся з найбольш вядомым прапаведнікам Езуса – апосталам Паўлам. Ад яго, а таксама з іншых крыніцаў, ці то запісаных, ці то вусных, ён атрымаў інфармацыю, якую змясціў на старонках Евангелля і Апостальскіх Дзеяў. Лука ўдзельнічаў у некаторых місійных падарожжах Апостала Народаў, даследаваў жыццё Хрыста ў Палесціне, вызначаўся мастацкім талентам, быў медыкам па прафесіі. Айцы Касцёла з першых стагоддзяў, а менавіта Ірэней з Ліёна (130–202гг), Клімент з Александрыі (150–215гг), Эўсэбій з Кесарыі (каля 325 г.), а таксама Канон Мураторыя (каля 170 г.) упэўнена называюць імя Лукі як аўтара трэцяга Евангелля і Апостальскіх Дзеяў. Лічыцца, што Лука загінуў мучаніцкай смерцю за веру.



**22 кастрычніка – успамін святога Папы Яна Паўла ІІ.**

22 кастрычніка 1978 года ўрачыста распачаўся пантыфікат Вялікага Папы Яна Паўла ІІ, які доўжыўся 27 гадоў і быў адным з самых працяглых пантыфікатаў у гісторыі Каталіцкага Касцёла. За час свайго служэння Папа здзейсніў 146 апостальскіх візітаў на тэрыторыі Італіі, 104 замежныя візіты, абвясціў 1338 чалавек благаслаўлёнымі і 482 чалавекі святымі. Сэрца Пантыфіка, шырока адкрытае для ўсіх, а перадусім для Бога, перастала біцца 2 красавіка 2005 г. Ён быў абвешчаны святым 27 красавіка 2014 г.

**28 кастрычніка – успамін святых Сымона і Юды, апосталаў.**

Апостал Сымон перад тым, як далучыўся да супольнасці дванаццаці, належаў да палітычна-рэлігійнай габрэйскай групоўкі, чальцы якой называлі сябе зелотамі (арамейск. кананітамі) – руплівымі, змагарамі. Пасля ўваскрасення Хрыста ён абвяшчаў Евангелле ў асноўным у Егіпце і Арменіі. Апостал Юда Тадэвуш, які падчас развітання з Хрыстом спытаў у Яго: "Пане, чаму Ты хочаш аб'явіць Сябе нам, а не свету?", напачатку абвяшчаў Евангелле ў Эдэсе, дзе ахрысціў мясцовага цара і ўсіх яго падданых. У знак падзякі за гэта цар Эдэсы падарыў апосталу выяву Хрыста, якую Юда Тадэвуш заўсёды насіў на грудзях. Паводле паданняў, абодва гэтыя апосталы вялі місіянерскую дзейнасць у Сірыі, Персіі і Месапатаміі і разам былі забітыя дубінамі каля 71 г. (па іншых звестках, Сымон быў распілаваны). Цела св. Юды з цягам часу перавезлі ў Рым. І па сённяшні дзень яно знаходзіцца ў базыліцы св. Пятра, дзе шматлікія вернікі аказваюць яму вялікую пашану. Папа Павел ІІІ у брэве ад 22 верасня 1548 г. удзяліў поўны адпуст тым, хто будзе маліцца каля святых рэліквій Апостала ў дзень яго свята, г. зн. 28 кастрычніка.

Св. апостал Сымон з'яўляецца апекуном дрывасекаў і лясных работнікаў, а заступніцтва св. Юды Тадэвуша просяць у безвыходных сітуацыях. Вядома, што той, хто ў самых складаных жыццёвых сітуацыях з глыбокаю верую звернецца да св. Юды, абавязкова атрымае дапамогу: калі не тую ласку, пра якую просіць, то духоўную моц, каб несці свой крыж, цалкам аддаючыся Божай волі.

*Падрыхтавала* **Ірына Радзевіч**

### На кастрычнік прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і дні святарскага і біскупскага пасвячэння ў наступных святароў і біскупаў:

**4 кастрычніка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Віктар Місевіч** (Віцебск); імяніны адзначае **кс. Францішак Кісель** *(Полацк)*;

**7 кастрычніка** – імяніны адзначае **а. Сяргей Мацюшонак OFMCap** *(Віцебск)*;

**8 кастрычніка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Іван Кароткін** *(Глыбокае)*;

**11 кастрычніка** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Сяргей Сурыновіч** *(Друя)*;

**13 кастрычніка** – імяніны адзначаюць **кс. Эдвард Нарадоўскі** *(Задарожжа)*, **кс. Эдвард Ахрамовіч** *(Опса)*;

**18 кастрычніка** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Андрэй Аніскевіч** *(Віцебск)*;

**20 кастрычніка** – гадавіну біскупскага пасвячэння адзначае **арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч – Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі**;

**21 кастрычніка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Казімір Акушка** *(Плюсы)*;

**22 кастрычніка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Лешэк Вітвіцкі** *(Слабодка)*;

**28 кастрычніка** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **біскуп Пінскай дыяцэзіі Антоні Дзям'янка**; імяніны адзначаюць **арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч – Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі**, **а. Тадэвуш Кавальскі OFMCap** *(Докшыцы)*.

**Просім нашых дарагіх чытачоў памятаць пра малітву за гэтых святароў і біскупаў.**

*Падрыхтавала* **Ірына Радзевіч**

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Вераніка Абуховіч** *(Дунілавічы)*, **Бугаева Э.Н.** *(Лынтупы)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Ганна Гінько** *(Глыбокае)*, **Ірына Руткоўская** *(Радзюкі)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Алена Тумаш** *(Любань)*, **Рамуальда Рудзінская** *(Яцкавічы)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Падсвілле)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **парафіяне з Дуброўна**, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Елізавета Красілевіч** *(Казлоўшчына)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **вернікі з Прошкава**, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Падсвілле)*, **Ірына Кончыц** *(Гомель)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

## Беларусь у "святых" гербах: Адэльск

**Ад другой паловы XIX ст. герб Адэльска не меў у сабе хрысціянскіх сімвалаў. Мястэчка чакала доўгія дзесяцігоддзі, калі на выяву герба вярнууся старадаўні апякун – святы Антоні Падуанскі.**

■ **а. Андрэй Сідаровіч**, *марыянін, Расіца*

Замала маем гістарычных звестак, каб адназначна сцвердзіць прычыну, па якой святы Антоні стаў апекуном Адэльска. Грамата аднаўлення прывілею карыстання гербам з выявай Антонія, аўтарства апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста, не можа нам падказаць адказ на гэтае пытанне.

Антоні ад моманту абвяшчэння святым быў адным з найбольш папулярных у Каталіцкім Касцёле. За сваё нядоўгае зямное жыццё ён праславіўся незвычайным дарам казанняў. Адукацыя, эрудыцыя і дар Божы зрабілі з яго найлепшага прапаведніка Еўропы. Антоні быў названы пагрозай для ерэтыкоў за сваё ўменне абараняць веру.

На гербе ён паказаны ў карычневым габіце закону францішканаў. Хаця сваё законнае жыццё пачынаў у аўгустыянаў. Змяніць супольнасць Антонія заахвоціла сустрэча з групай пяці францішканаў, якія ішлі прапаведаваць Евангелле ў далёкае Марока, дзе і загінулі мучаніцкай смерцю. Антоні асабіста ніколі не быў у Марока і не змог там памерці дзеля Хрыста, як марыў.

Чалавек неймаверных здольнасцей, ён тры гады пісаў нядзельныя і святочныя казанні для Папы Грыгорыя ІХ. Прапаведаваў часта на вуліцы, а не ў храмах, бо святыні не змяшчалі ахвотных яго пачуць.

На гербе Адэльска Антоні адлюстраваны так, як часта паказаны на абразах: з Дзіцяткам Езусам. Гэта адгалосак легенды пра тое, што Маленькі Езус прыходзіў да Антонія і заклікаў яго казаць пра любоў Божую. Разгорнутая кніга сімвалізуе яго любоў да Святога Пісання, якое ён вывучаў ва ўніверсітэтах і самастойна. Лілія – хрысціянскі сімвал цялеснай і духоўнай чысціні.



Цікава, што пасля смерці Антонія праз яго заступніцтва за год здзейснілася столькі яўных цудаў, аздараўленняў (папская камісія пацвердзіла пяць аздараўленняў паралізаваных, сем выпадкаў вяртання зроку, тры глухія вярнулі слых, двое нямых атрымалі дар мовы; больш за тое: пацверджаны два выпадкі ўваскрашэння памерлых), што Папа праз 352 дні пасля смерці абвясціў Антонія святым! Гэта адзін з найбольш хуткіх кананізацыйных працэсаў у гісторыі Касцёла.



# Святы, якому не змаглі звязаць рукі

**Блаславёны Ежы Папялушка, мучанік**
*19 кастрычніка*

**Яшчэ не адзін раз паўстане дыскусія сярод гісторыкаў, багасловаў, грамадазнаўцаў: ці сапраўды гэты чалавек, гэты святар мучанік за веру? Ці сапраўды ён аддаў жыццё за Хрыста і Касцёл? А можа, так заплаціў за свае палітычныя перакананні? Можа, стаў ахвярай незадавальнення тагачаснай камуністычнай улады? Ці сапраўды тое, як жыў, што прапаведаваў і як загінуў, мае пячатку Божай ласкі?**

**а. Андрэй Сідаровіч MIC**, *Росіца*



Ежы, на першы позірк, ні чым не адрозніваўся ад сваіх равеснікаў. Як і большасць польскіх семінарыстаў таго часу, нарадзіўся ў вёсцы, у вёсцы выхаваўся ў каталіцкай пабожнай сям'і і там атрымаў першую адукацыю. Характар будучага святога пачаў праяўляцца ў семінарыі. А калі быць больш дакладным, у часе перапынку ў вучобе. Камуністычныя ўлады стварылі спецыяльныя вайсковыя часткі, у якіх службу праходзілі клерыкі, будучыя святары. Там ва ўмовах пастаяннага ціску на чалавека, каб той адмовіўся ад ідэі стаць святаром, выявілася, што Ежы мае ў сабе нейммаверную адвагу. Між іншым, ён не дазволіў, каб у яго з шыі знялі крыжык і медалік з выявай Маці Божай.

Ужо будучы святаром, Ежы служыў людзям на розных напрамках. Паколькі сам яшчэ ў семінарыі цяжка хварэў, нават быў пры смерці, ён меў асаблівую ўражлівасць да хворых, часта наведваў шпіталь, маліўся і апекаваўся таксама ўрачамі. Ствараў для розных груп медыкаў малітоўныя групы.

Асабліва вядомым як святар Ежы стаў у часе забастовак рабочых, якія прасілі біскупа прысланць ксяндза, каб не заставацца без святой Імшы ў нядзелю. Можна сказаць, Ежы выпадкова трапіў да звычайных рабочых і стаў іх капеланам, духоўнікам.

Так нарадзілася вядомае на ўсю Польшчу набажэнства – малітва за Бацькаўшчыну. Ксёндз Ежы ў кожную апошнюю нядзелю месяца служыў святую Імшу за сваю Радзіму. Паслухаць яго казанні прыходзілі натоўпы людзей.

Таксама будучы святы шмат ездзіў па Польшчы з казаннямі і рэкалекцыямі. Калі пачытаць змест яго казанняў, то ўбачым там заўсёды простыя, немудрагелістыя думкі – пра правы чалавека, пра яго годнасць, пра патрэбу прабачаць крыўдзіцелям, не помсціць. Асноўная думка навучання кс. Ежы гучала так: "Перамагай зло дабром". І нават вось гэтыя мірныя думкі не давалі спакою ўладам настолькі, што яны ўсялякімі сродкамі хацелі знішчыць яго служэнне і папулярнасць. Цiснулi на біскупаў, каб змянілі яму месца служэння і забаранілі прапаведаваць, дыскрэдытавалі ў прэсе, ачарнялі, абвінавачвалі ў фінансавых растратах і амаральным жыцці, запужвалі ананімнымі пагрозамі.

Не ведаем да канца, што было апошняй кропляй, якая камуністаў падштурхнула да фізічнай расправы над кс. Ежы. Але вядома, што перад тым, як утапіць яго ў Віслe, ксяндза жорстка збівалі і катавалі. Возячы паўночы ў багажніку машыны, звязалі за спінай рукі і ногі так, каб кожны рух выпростваня цела заціскаў вяроўку на шыі.

І ўсё ж як ні хацелі ўлады змусіць замаўчаць кс. Ежы, як ні імкнуліся звязаць яго "рукі" і спыніць святарскую дзейнасць, ім гэта не ўдалося. Ужо пахаванне кс. Ежы стала вялікай маніфестацыяй веры для жыхароў Варшавы: тысячы ўдзячных людзей выйшлі на вуліцы. Можна сказаць, што перакананне ў яго святасці і мучаніцтве ні на момант не знікала ў сэрцах тых, хто яго ведаў асабіста.

На абразах ксёндз Ежы часта адлюстраваны з крыжам у руцэ, так як і прапаведаваў з амбоны пры сваім жыцці.

# Паводле якога прынцыпу святароў і манахінь пераводзяць з адной парафіі ў іншую?

*"Хвала Хрысту! Паводле якога прынцыпу ксяндзоў і манахінь пераводзяць з адной парафіі ў іншую? Як і чаму прымаюцца такія рашэнні?"*
*Марына*

**На пытанне адказвае а. Аляксандр Махнач SP, піяр з Ліды:**

— Хвала навекі! Дарагая Марына!

Змена месца служэння душпастыраў ці законных сясцёр з'яўляецца чымсьці звычайным у практыцы Касцёла на працягу стагоддзяў. Пераводзіць з аднаго месца служэння на іншае можа дыяцэзіяльны біскуп ці найвышэйшы настаяцель канкрэтнай манаскай супольнасці, якому святар падчас святарскага пасвячэння абяцаў паслухмянасць. Бо менавіта біскуп ці настаяцель канкрэтнай манаскай супольнасці адказвае за адпаведную арганізацыю душпастырства і падбор асоб на месцы служэння.

Няма нейкіх сталых правіл наконт пераводу святара. Кананічнае права дазваляе пэўную свабоду ў гэтым сэнсе. Можна сказаць, што галоўнай прычынай зменаў з'яўляюцца душпастырскія патрэбы вернікаў. З пераводам аднаго святара ўтвараецца ланцуг зменаў. Безумоўна, спадарожнічае гэтаму ўзрушэнне сярод вернікаў парафіі, якія прызвычаіліся да свайго душпастыра і хацелі б затрымаць яго ў сябе як мага даўжэй. Але ці гэта не эгаізм з іх боку? Найлепшы святар і толькі для іх!

На справу пераводу святара трэба пагляддзець са звышнатуральнага пункту гледжання, а не толькі выключна людскога.

Кодэкс Кананічнага Права дае агульнае правіла дзейнасці Касцёла, нагадваючы, што трэба заўсёды мець перад вачыма збаўленне душ (пар. кан. 1752). Пан Езус сказаў Апосталам: *"Хто прымае вас, Мяне прымае. А хто прымае Мяне, прымае таго, хто паслаў Мяне"* (Мц 10,40). Бог паслугоўваецца рознымі святарамі. Цяжка сказаць, які святар у якой парафіі ўчыніць найбольш добрага. Такія змены патрэбныя святарам, законным сёстрам, але і вернікам таксама, сярод каго і служаць святары. Новая парафія пэўным чынам мабілізуе святара да новага выкліку. У пераважнай большасці гэта спрыяе парафіянам, таму што новы святар уносіць свой погляд на канкрэтныя справы, інакш ацэньвае розныя рэчы, чым гэта рабіў мінулы пробашч, якога вернікі ведалі доўгія гады.

Чалавечая прырода мае штосьці ў сабе такое, што праз адпаведны час чалавек выпальваецца, перастае быць крэатыўным, не мае новых ідэй. І тады змена месца душпастырскага служэння – гэта шанец для святара, каб з новым запалам і новымі ідэямі ажывіць душпастырства ў новай парафіі. Новае асяроддзе змушае яго паставіць перад сабой больш высокую планку.

Калі казаць пра пробашчаў, то іх пасада больш стабільная, чым вікарыя. Згодна з кан. 522 Кодэксу Кананічнага Права, намінацыі прызначаюцца на неабмежаваны час, пакуль біскуп ці найвышэйшы настаяцель манаскай супольнасці не вырашыць перавесці святара ў іншае месца служэння.

Змена парафіі, змена месца жыхарства, асяроддзя і супрацоўнікаў заўсёды будзе цяжкай! Патрэбны час, каб акліматызавацца і пазнаць новае атачэнне. Кожны чарговы перавод будзе лягчэйшым, хаця і спадарожнічаюць гэтаму розныя эмоцыі. І тое натуральна! Калі святар ці законная сястра вызначаюцца нейкай асаблівай харызмай, то змена парафіі можа толькі паспрыяць таму, што большая частка вернікаў скарыстаецца прысутнасцю такой асобы.

У іншай парафіі таксама ёсць людзі, якія патрабуюць святара, каб іх спавядаў, цэлебраваў Эўхарыстыю і прысвячаў ім свой час. Пан Бог усюды хоча мець "сваіх людзей" і бывае, што нават вельмі дзіўным чынам праз біскупа ці найвышэйшага настаяцеля Ён паказвае, як вельмі патрабуе гэтага канкрэтнага святара ці законную сястру менавіта тут і цяпер!

# В Ливане установили гигантскую статую св. Шарбеля




**Гигантская статуя одного из самых почитаемых маронитских святых – преподобного Шарбеля – установлена в горах ливанской области Кесруан, сообщает Fides.**

В воскресенье, 20 августа, изваяние было доставлено из Харет-Сахра в селение Фарайя, расположенное в Кесруане – регионе, населенном преимущественно христианами-маронитами. В пятницу, 25 августа, статую начали водружать на место её расположения. А полностью монтаж был завершен на следующий день – 26 августа.

На время транспортировки статуи, высота которой составляет 27 м, ширина 7 м, а вес 40 тонн, было перекрыто движение на шоссе, ведущем в Фарайю.

Работа над скульптурой, автором которой является ливанец Наиф Альван, еще окончательно не завершена.

14 сентября, когда марониты отметили праздник Воздвижения Креста Господня, в Фарайе состоялась торжественная литургия и церемония освящения статуи.

Св. Шарбель Махлуф родился в 1828 году в ливанском селении Бекаа-Кафра в бедной крестьянской семье. При крещении получил имя Иосиф. В 23 года поступил в монастырь св. Марона в Аннайе. Принес вечные обеты в 1853, был рукоположен в священный сан в 1859, с 1875 вел жизнь отшельника. Скончался после непродолжительной болезни в канун Рождества – 24 декабря 1898, пишет "Википедия". После смерти его тело долгое время оставалось нетленным, и по молитвам к нему стали совершаться чудеса.

*Благовест. Инфо*



### Хвала Хрысту!

*Ад шчырага сэрца віншуем* ***ксяндза Славаміра Самковіча*** *з Днём нараджэння, які ён адзначае 29 верасня!*

*Шчыра жадаем усіх дароў Духа Святога, апекі Маці Божай, жадаем плёну ў працы на карысць парафіі, моцнага здароўя і заўсёды добрага настрою!*

***Парафіяне касцёла Божай Міласэрнасці, агр. Пагошча (Браслаўскі раён)***

### Хвала Хрысту!

*29 верасня адзначае дзень нараджэння* ***ксёндз Славамір Самковіч****.*

*Шчыра віншуем Вас, ксёндз Славамір, і жадаем дароў Духа Святога, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі! Няхай Бог заўсёды натхняе Вас на добрыя справы і дае сілы на іх рэалізацыю, а побач хай будуць толькі добразычлівыя людзі! Мы памятаем Вас у сваіх малітвах.*

***Парафіяне касцёла Святой Тройцы ў Глыбокім***



### Хвала Хрысту!

*8 кастрычніка адзначае Дзень нараджэння* ***ксёндз Іван Кароткін****, які працуе вікарыем у нашым касцёле. Ад усяго сэрца віншуем Вас, паважаны ксёндз Іван, і жадаем апекі Маці Божай і святога Заступніка, шчодрых дароў Духа Святога, здароўя! Няхай добры Бог, Які паклікаў Вас да святарства, узнагародзіць і ўзмоцніць! Хай Ваша праца на Божай ніве прыносіць добры плён! А мы абяцаем маліцца за Вас.*

***Вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***

### Хвала Хрысту!

*9 верасня адзначыў імяніны наш паважаны* ***ксёндз Сяргей Сурыновіч****. Сардэчна жадаем Вам, дарагі ксёндз-пробашч, душэўнага спакою, здароўя, неабходных сіл для рэалізацыі Вашых планаў і намераў, аптымізму, як мага больш адкрытых і шчырых людскіх сэрцаў, Хрыстовай любові! Жадаем апекі Маці Божай, дароў Духа Святога. Хай Божая міласэрнасць спадарожнічае Вам і Вашым родным праз усё далейшае жыццё!*

*Шчыра дзякуем Вам за магчымасць ушанаваць фігуру Маці Божай Фацімскай у нашай капліцы!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі капліцы св. Юзафа ў аг. Друйск – Ганна Пяткевіч, Ганна Максіменка і сям'я Шпак***



### Хвала Хрысту!

*Шчыра віншуем дарагога* ***ксяндза-каноніка Андрэя Аніскевіча*** *з нагоды Дня нараджэння (26 верасня)! Сардэчна жадаем моцнагаз дароўя, Божых ласкаў, людской добразычлівасці. Няхай усмешка заўсёды гасціць на Вашым твары!*

*Вялікі дзякуй, ксёндз Андрэй, за гады адданага душпастырскага служэння ў нашым касцёле, за мудрыя і прыгожыя казанні, за малітвы, за духоўнасць, якая заўсёды адчувалася!*

*Мы заўжды памятаем Вас і молімся за Вас!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі касцёла св. Казіміра ў г. Лепель***

# Ліст удзячнасці святару

### Хвала Хрысту!

21 верасня – дзень нараджэння ў нашага шаноўнага пробашча Альфрэда Пяхоты. Мы, вернікі Відзаўскай парафіі, хочам павіншаваць яго з гэтай нагоды і расказаць, каб чытачы Вашай газеты даведаліся, які святар у нас! Хоць разумеем: колькі б добрых слоў пра яго мы ні сказалі, іх усё роўна было б мала, каб па-сапраўднаму зразумець веліч і прыгажосць душы нашага пробашча!

Гэта чалавек вялікага сэрца, якому мы давяраем усе нашы жыццёвыя праблемы, розныя балючыя пытанні. Ён цярпліва выслухае і абавязкова дапаможа ці слушнай парадай, ці справай, ці малітвай. Ён змагаецца за нашы душы і хоча, каб мы прыйшлі да Пана Бога з "ахапкамі добрых учынкаў". Ксёндз Альфрэд жыве з адкрытай душой, шчыра любіць Пана Бога і людзей, робіць дабро і не чакае за гэта ўзнагароды. Ён таленавіты прамоўца і тонкі псіхолаг.

Мы, старэйшыя парафіяне, радуемся, што павялічваецца колькасць дзяцей і моладзі, якія присутнічаюць на святой Імшы, прыступаюць да святых Сакрамантаў. Якая такая прыцягальная сіла тут дзейнічае? Гэта змястоўныя казанні кс. Альфрэда, поўныя духоўнасці, любові да людзей, шчырасць і адданасць Божай справе – усё дзейнічае на прысутных з вялікай сілай, дапамагае наблізіцца да Бога.

Вось што кажуць парафіяне пра свайго пробашча.

**Марыя Тумель:**

– Мой унучак Павел жыве ў Мінску, але кожнае лета прыязджае да мяне ў Відзы. З радасцю бяжыць у касцёл, каб убачыць і паслухаць свайго любімага святара. Аднойчы, калі ён не ўбачыў на св. Імшы кс. Альфрэда, расплакаўся, пытаючыся ў мяне: "Дзе мой ксёндз Альфрэд?" У гэтым годзе унучак прыняў Першую Святую Камунію з рук любімага святара і стаў прыслугоўваць ля алтара Пана. Спадзяюся, што зерне любові да Пана Бога, пасеянае кс. Альфрэдам, прарасло і дасць свой плён. Дзякую Вам, дарагі ксёндз Альфрэд!

**Станіслава Савіцкая:**

– З гэтым касцёлам звязана маё маленства. Памятаю, гуляючы з дзецьмі, мы забеглі ў касцёл. Гэта былі гады, калі святыню адабралі ў вернікаў і аддалі ў грамадскае карыстанне. Я ўбачыла горы смецця, выбітыя вокны, разбураны алтар...

Я стаяла пасярод гэтай разрухі і думала, што можа калі-небудзь касцёл верне сваю былую прыгажосць. Маё дзіцячае сэрца так жадала гэтага! А сёння дзякуючы намаганням святароў, асабліва кс. Альфрэда, касцёл стаў духоўным цэнтрам нашага мястэчка. Ён велічны і прыгожы. Людзі радуюцца і дзякуюць кс. Альфрэду за яго клопат не толькі пра касцёл, але і за прыгожа ўпарадкаваную прыкасцельную тэрыторыю. Цяпер я жыву касцёлам, дапамагаю падтрымліваць чысціню і парадак, уважліва слухаю казанні кс. Альфрэда. Дзень без удзелу ў св. Імшы для мяне – страчаны дзень.

**Рыма Пагада:**

– Муж маёй дачкі – праваслаўны, а дачка – каталічка. Адной гутаркі з кс. Альфрэдам было дастаткова, каб яны пераканаліся ў тым, што Сакрамант сужэнства ўмацуе сям'ю, а дзеці, народжаныя ў такой сям'і, будуць пад Божай апекай. Дзякуй Вам, шаноўны наш пробашч! Сама ж я жыву надзеяй, што Вы яшчэ доўга будзеце з намі, будзеце весці нас дарогай любові да Пана Бога.

**Марыя Казакевіч:**

– Кс. Альфрэд!.. Вы, напэўна, ужо і забыліся, як некалькі гадоў таму, у Велікоднае свята пасля начнога чування і святочнай Імшы, несумненна, стомлены Вы паехалі за 40 км. у браслаўскую бальніцу, каб удзяліць сваёй парафіянцы Святую Камунію. Быццам бы Вы адчувалі, як прагне душа мая Бога! Слёзы радасці і ўдзячнасці цяклі па маім твары. Тады я зразумела: найкарацейшая дарога да Бога – любоў! Не толькі словамі, але і ўчынкамі Вы пераконваеце нас ў гэтым! І так заўсёды. Калі ў чалавека бяда, Вы першы прыходзіце на дапамогу. Нізкі паклон Вам, кс. Альфрэд, ад імя ўсёй маёй сям'і, ад імя хворых, састарэлых людзей, якіх Вы наведваеце дома, у бальніцах. Ваш візіт – гэта бальзам радасці, а нярэдка і выздараўленне. Добры Божа! Апякуйся Вашай мамай і Вашымі роднымі, благаславі і асвяці іх зямны шлях сваёй ласкай!

Аліна Юрша, Галіна Зазноба, Тэрэса Малахоўская і шмат іншых парафіянаў хацелі б сказаць Вам цёплыя словы ўдзячнасці і пакланіцца нізка за клопат пра нас! Але ці напішаш пра гэта ў адным лісце!? Зрэшты, атрымалася б добрая аповесць!

З пачуццём вялікай павагі віншуем Вас, кс. Альфрэд, з Днём нараджэння! Доўгіх Вам гадоў жыцця, здароўя, апекі Маці Божай і ўсіх дароў Духа Святога! А мы будзем у малітвах прасіць Пана Бога, каб Вы заставаліся ў нашай парафіі яшчэ доўга-доўга!

***Вернікі парафіі Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі ў Відзах***



# Як быць, калі нарачоны праваслаўны?

*"Хвала Хрысту! Скажыце, калі ласка, як нам быць? Я хачу ўзяць шлюб з маладым чалавекам. Я – каталічка-практык, ён ахрышчаны ў праваслаўі ў раннім дзяцінстве, але ніколі не практыкаваў. І яго сям'я таксама не практыкуе (усе ахрышчаны "па модзе", у якасці "абярэга"). Ён згодны ўзяць шлюб у касцёле. Але не будзе пераходзіць у каталіцтва. Чытала, што вянчанне ў такой сітуацыі магчымае, можна заключыць змешаны шлюб. Ці так гэта? Растлумачце, калі ласка. І яшчэ. Ці можа пры шлюбе ў касцёле быць сведкам з яго боку таксама ахрышчаны ў праваслаўі малады чалавек, які не практыкуе?"*
*Ганна*

**На пытанне адказвае а. Аркадзь Куляха OCD, Міждыяцэзіяльная вышэйшая духоўная семінарыя імя святога Тамаша Аквінскага ў Пінску:**

– Паважаная Ганна! Дзякую за пытанне. Віншую вас з намерам заснаваць сям'ю і жадаю шчодрых Божых ласкаў на працягу ўсяго жыцця!

Шлюбы паміж католікамі і праваслаўнымі – не рэдкасць у нашай краіне. У касцельнай тэрміналогіі такое сужэнства называецца "змешаным" і датычыць дваіх ахрышчаных, з якіх адна асоба прыняла хрост у Каталіцкім Касцёле, а другая належыць (у дадзеным выпадку) да Праваслаўнай Царквы (пар. Кодэкс Кананічнага Права, кан. 1124). Варта дадаць, што сужэнства будзе называцца змешаным, калі некаталіцкі бок, які мае намер заключыць сужэнства, застаецца пры сваім веравызнанні. Калі б некатолік далучыўся да Каталіцкага Касцёла, то ў такім выпадку сужэнства заключалася б паміж католікамі. Вы адзначаеце, паважаная Ганна, што ваш нарачоны прагне застацца праваслаўным, а такім чынам сужэнства лічыцца змешаным.

## Сужэнства – гэта сакрамант

Шлюб – гэта сакрамант любові і сувязі, якая ажыццяўляецца, калі сужэнцы разам моляцца, працуюць, размаўляюць і калі яны клапоцяцца пра сябе. Паколькі сужэнства ёсць дарам Божага Провіду, то неабходна памятаць і пра яго духоўнае вымярэнне і аднясенне да Бога. Сужэнцы праз малітву, удзел у сакраментальным жыцці, літургіі і набажэнствах Касцёла наблізяюцца да Бога, а таксама і да сябе. Касцёл у шматлікіх дакументах і выказваннях паказвае і ахоўвае каштоўнасць сужэнства ва ўсіх яго вымярэннях. Блаславёны Папа Павел VI навучае пра чатыры характэрныя рысы сужэнскай любові. Яна – чалавечая (і пачуццёвая і духоўная), цэласная, верная і плодная (пар. Павел VI, Энцыкліка Humanaevitae, 8). У такім сужэнстве жонцы і мужу дапамагае дар веры, дзякуючы якой яны адказваюць Богу на Яго любоў і Аб'яўленне.

## Вера – вялікі дар

Ваш нарачоны быў ахрышчаны ў дзяцінстве, аднак ён і яго сям'я ніколі не былі вернікамі-практыкамі. Катэхізіс Каталіцкага Касцёла вучыць нас, што вера – гэта найперш асабістае адданне сябе Богу і добраахвотнае прызнанне ўсёй праўды, якую Бог аб'явіў (пар. ККК 150). Чалавек пакліканы добраахвотна адказваць Богу ў веры, і ніхто супраць сваёй волі не можа быць прымушаны прыняць веру (пар. Другі Ватыканскі Сабор, Дэкларацыя пра рэлігійную свабоду Dignitatis Humanae, 10). Трэба, аднак, памятаць, што кожны вернік пакліканы сведчыць пра сваю веру як усім сваім жыццём, так прыкладам і словам. Такім чынам, вернік можа дапамагчы іншым у іх дарозе да Бога і веры. Маладыя людзі, якія маюць намер заключыць сужэнства перад абліччам Бога, пакліканы ў святле Хрыстовай навукі пастаянна адкрываць праўды пра сябе, пазнаваць адно аднаго, чытаць і разважаць над Божым Словам ды разам маліцца.

Паважаная Ганна, многія дзяўчаты і юнакі сустракаюць у сваім жыцці будучую другую палавінку, якая, найчасцей не па сваёй віне, не спазнала велічы і любові Бога. Яны неаднойчы дзякуючы сваёй веры, інтуіцыі, а таксама далікатнай, але мэтанакіраванай руплівасці і малітве дапамагаюць сваім каханым знайсці надпрыродны сэнс жыцця і спазнаць вечную Любоў. Сужэнства настолькі важны і вялікі дар Бога, што нельга дазволіць сабе нейкую абыякавасць у справах веры як у час перад шлюбам, так і пазней. Я асабіста ведаю людзей, которыя як нарачоныя сталі паспяховымі катэхетамі для сваіх каханых, ці то толькі ахрышчаных, ці нават для тых, хто не верыць. Сёння многія з іх складаюць сям'ю сапраўдных вернікаў, разам удзельнічаюць у сакраментальным жыцці, моляцца і жывуць ласкаю Хрыста. Безумоўна, варта паспрабаваць. Дзеля Бога і асабістай шчаслівай будучыні.



## Падрыхтоўка змешанага сужэнства

Калі маладыя людзі маюць намер заключыць сужэнства ў касцёле, яны павінны ў першую чаргу звярнуцца ў канцылярыю сваёй парафіі ці непасрэдна да святара, які служыць у дадзенай парафіі. Пажадана не марудзіць, бо, у залежнасці ад магчымасцяў і прынцыпаў, якія абавязковыя ў асобных парафіях, касцельная падрыхтоўка да сакраманту сужэнства можа працягвацца і некалькі месяцаў. Гэта датычыцца таксама і змешанага сужэнства.

> **"...касцельная падрыхтоўка да сакраманту сужэнства можа працягвацца і некалькі месяцаў"**

Трэба чакаць, што душпастыр паставіцца з павагай да нарачоных, якія хочуць заключыць змешанае сужэнства, дапаможа ім падрыхтаваць неабходныя дакументы, а таксама растлумачыць усё, што звязана са шлюбам. Пры заключэнні змешанага сужэнства каталіцкі бок павінен у пісьмовай форме заявіць, што гатовы адхіліць ад сябе небяспеку страціць веру, а таксама абяцаць, што зробіць усё магчымае, каб усе дзеці былі ахрышчаныя і выхаваныя ў Каталіцкім Касцёле. Некаталіцкі бок у сваю чаргу павінен быць паінфармаваны пра ўзгаданыя вышэй заявы, абяцанні і пра іх змест (пар. Кан. 1125). Абое нарачоныя атрымаюць неабходныя веды пра значэнне і разуменне сужэнства ў Каталіцкім Касцёле.

## Сведкі заключэння сужэнства

Паводле касцельнага права для сапраўднасці каталіцкага сужэнства пры яго заключэнні неабходная прысутнасць двух сведкаў (пар. Кодэкс Кананічнага Права, кан. 1108 §1). Згаданы кодэкс не ўдакладняе, хто можа быць сведкам. Прынята меркаваць, што сведкамі павінны быць асобы з адпаведнымі маральнымі якасцямі. Гэта вынікае і з самой функцыі, якую выконваюць сведкі: яны сведчаць аб праўдзе заключэння сужэнства.

Яшчэ адзін касцельны дакумент сцвярджае, што чальцы іншых Касцёлаў або касцельных супольнасцяў могуць быць сведкамі на цэлебрацыі сужэнства ў Каталіцкім Касцёле (пар. Папская рада па справах адзінства хрысціянаў, Экуменічны Дырэкторый, 128, 136).

Трэба памятаць, што жанчына і мужчына ў сужэнстве так цесна яднаюцца з сабою, што становяцца адным целам (пар. Род 2, 24). Узаемная згода, вернасць, пашана і падтрымка на працягу ўсяго сумеснага жыцця дзякуючы ласцы сакраманту дапамагаюць сужэнцам непарыўна кахаць адно аднаго. Таму маладым людзям трэба з вялікай адказнасцю падыходзіць да падрыхтоўкі шлюбу і як мага раней пачаць маліцца пра распазнанне свайго паклікання.

Паважаная Ганна! Вам і ўсім чытачам, якія маюць намер заключыць шлюб, жадаю моцнай веры, адвагі, а таксама каб словы прысягі – "ажно да смерці", – выказаныя перад Богам, суправаджала Ягоная ласка!



### Хвала Хрысту!

*Ад імя ўсіх вернікаў Глыбоцкай парафіі Святой Тройцы шчыра віншуем канцлера Віцебскай дыяцэзіі, галоўнага рэдактара "Каталіцкага Весніка"* ***ксяндза Віктара Місевіча*** *з днём нараджэння (4 кастрычніка)!*

*Шчыра жадаем радасці, здзяйснення ўсіх мараў, моцнага здароўя. Няхай Езус Хрыстус блаславяе кожны Ваш дзень, а Маці Божая хай ахінае сваёй любоўю і апекай, Святы Дух дапамагае выконваць душпастырскую паслугу і шчодра адорвае патрэбнымі ласкамі! Плёну на ніве духоўнага адраджэння беларускай зямлі і ў працы на карысць Касцёла ў Беларусі!*

### Хвала Хрысту!

*28 верасня – імяніны ў* ***ксяндза Вячаслава Пялінка****, які працуе ў в. Ідолта Мёрскага раёна.*

*Вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім сардэчна жадаюць Вам, ксёндз Вячаслаў, духоўных і фізічных сіл для далейшага служэння Богу і людзям, моцнага здароўя! Няхай Святы Дух напаўняе Вас сваім святлом, добры Бог хай блаславяе, а Маці Божая атуляе сваёй любоўю!*

*Мы памятаем Вас і молімся ў Вашай інтэнцыі.*

### Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Лужкаўская парафія Арханёла Міхаіла дасылае свае шчырыя, сардэчныя віншаванні свайму пробашчу* ***ксяндзу Міхаілу*** *з днём Анёла! Мы заўсёды аддаём хвалу Пану Богу за тое, што ў нас працуе такі ксёндз, ад якога мы маем магчымасць вучыцца, і вучыцца многаму.*

*Паважаны ксёндз Міхаіл! Ужо шмат гадоў Вы ведзяце Божы люд дарогай Хрыста, дарогай праўды, веры, еднасці і любові. Няхай і надалей Вашыя словы кранаюць душы людзей, робячы іх больш міласэрнымі, добрымі, шчырымі, сапраўднымі вернікамі!*

*Шчыра дзякуем за адданую і плённую працу ў нашай парафіі!*

# ЦІКАВАЕ МЕРАПРЫЕМСТВА? ЦІКАВАЯ ІМПРЭЗА?
## Як лепш сказаць па-беларуску?

**Апошнія два дзесяцігоддзі ў нашай мове паралельна выкарыстоўваюцца назоўнікі *мерапрыемства* і *імпрэза*. Гэта датычыць і штодзённай вуснай камунікацыі, і пісьмовай практыкі. Але як выглядае сітуацыя з ужываннем названых слоў з пункту гледжання культуры мовы? Паспрабуем разабрацца.**

**Юрась Бабіч**, *кандыдат філалагічных навук*

Праведзеныя намі псіхалінгвістычныя даследаванні паказваюць, што лексема **мерапрыемства** міжволі асацыюецца з нейкай "казёншчынай", з савецкай рэчаіснасцю, з афіцыйна-справавым ці прынамсі публіцыстычным стылем. А слова **імпрэза** атаясамліваецца звычайна з чымсьці ўзвышаным, мастацкім, нефармальным.

Назоўнік **імпрэза** ўжываўся яшчэ ў старажытнай беларускай мове, найчасцей са значэннем "пачынанне, задума". Зразумела, што ў савецкі час слова не выкарыстоўвалася ў нашай мове, хутчэй, з ідэалагічных меркаванняў. Але напрыканцы 90-ых гадоў мінулага стагоддзя названая лексічная адзінка даволі трывала замацавалася ў беларускай лексіцы. Яе фіксуе, у прыватнасці, выдадзены ў 2009 годзе "Слоўнік новых слоў беларускай мовы" (Мінск, с. 151) як сінанімічнае да апелятыва мерапрыемства. І таксама падае акадэмічны "Слоўнік беларускай мовы" (Мінск, 2012, с. 316).

Рэгулярна ўжываецца слова **імпрэза** ў розных сродках масавайінфармацыі: *Напярэдадні дзесяць мясцовых бізнэсоўцаў абвясцілі акцыю – той, хто будзе мець квіток з* ***імпрэзы****, атрымае зніжку на іх тавары і паслугі* (Наша слова, 7.12.11); *На* ***імпрэзу*** *"Пад вернай зоркай Венерай"... сабралася шмат аматараў творчасці класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча* (Мы і час, 21.01.12); *Купалаўскі музей падрыхтаваў сваю* ***імпрэзу****...* (Краязнаўчая газета, №9, сакавік, 2012).

Але ці заўсёды існуе магчымасць узаемазамены назоўнікаў **мерапрыемства** і **імпрэза**? Не, не заўсёды. У асобных кантэкстах немагчымая іх узаемазамена, гэта значыць, што тоеснасць значэння названым словам усё ж неўласцівая. Так, напрыклад, мы не скажам, што *"праводзілі імпрэзы па азеляненні тэрыторыі"* ці *"імпрэзы па вакцынацыіінасельніцтва"*. Тут падыходзіць якраз словаформа **мерапрыемствы**. Інакш кажучы, у любой маўленчай сітуацыі можна выкарыстаць слова **мерапрыемства**, але не кожны раз **імпрэза**.

Але калі гаворка ідзе пра нешта ўрачыстае, святочнае, то сінанімічны патэнцыял названых назоўнікаў актуалізуецца ў поўнай меры і яны абодва могуць паралельна ўжывацца ў межах выказвання: *Вельмі пранізлівым атрымаўся фінал афіцыйнай часткі* ***імпрэзы****, калі выступоўцы раптам укленчылі...* ***Мерапрыемства*** *скончылася вясёлым салютам* (Віцебскі праспект, 16.09.2010); *Сардэчна дзякуем літаратарам... за ўдзел у* ***імпрэзе****. Бо падобныя* ***мерапрыемствы*** *сапраўды яднаюць усіх прыхільнікаў прыгожага пісьменства...* (Наша слова, 29.12.2010); *У бібліятэцы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі адбылася* ***імпрэза*** *ў рамках святкавання 100-годдзя беларускай паэткі Ларысы Геніюш, што цягам усяго году шэрагам* ***мерапрыемстваў*** *і падзей святкуецца па ўсёй Беларусі* (Наша слова, 10.11.2010); *Напярэдадні Дня абароны роднай мовы па ўсёй Беларусі праходзяць адмысловыя* ***мерапрыемствы****, прысвечаныя гэтаму святу. У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа ў Мінску адбылася* ***імпрэза*** *з удзелам Міхася Канстанцінавіча Міцкевіча* (Звязда, 19.02.2011).

Як бачна, у прыведзеных кантэкстах дзякуючы выкарыстанню слова **імпрэза** ўдаецца лёгка пазбегнуць нематываванага паўтору, стылістычна аздобіць выказванне. Выбар той ці іншай лексічнай адзінкі залежыць не ў апошнюю чаргу ад унутраных адчуванняў моўніка, ад сфарміраванага ў яго вобраза і асацыяцый, якія выклікае гэты вобраз у пэўных сітуацыях. І, несумненна, вялікае значэнне мае моўны густ чалавека. Зразумела, што лексема **імпрэза** стварае больш моцны эмацыйны фон, чым "казённы" назоўнік *мерапрыемства*. Таму пры выбары аднаго з двух названых сінонімаў з мэтай павышэння культуры маўлення варта аддаваць перавагу назоўніку **імпрэза**. Напрыклад, фраза *Мы былі на цудоўнай* ***імпрэзе*** *з нагоды юбілею калегі* гучыць лепш, чым *Мы былі на цудоўным мерапрыемстве з нагоды юбілею калегі.*

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**24 верасня 2017 г.**

***Мц 20, 1- 16***

У сённяшнім Евангеллі распавядаецца пра грэх зайздрасці і пра Божую дабрыню. Бог хоча, каб усе атрымалі вечную ўзнагароду ў небе. Ён шукае людзей, якія паверыць Яму і пойдуць выконваць Яго волю. У адказ Ён справядліва адорыць іх. А нават больш, чым справядліва, г.зн. з дабрынёй і міласэрнасцю. Добры і міласэрны Бог хоча, каб мы былі ўдзельнікамі Яго шчасця.

Пачуццё зайздрасці выклікае ў чалавека думку: ці не пакрыўдзілі яго? У гэты момант, калі мы дазволім, каб чорт распаліў у нас падобнае пачуццё і падштурхнуў да зла, здзяйсняецца грэх зайздрасці. Можна, напрыклад, убачыўшы, што гаспадар адарыў менш спрацаваных так, як і нас, парадавацца, бо Бог міласэрны і Яго любоў большая за справядлівасць. Горш, калі вучань Хрыста не цешыцца з Божай любові, а зайздросціць. Усё неба, Бога і Яго любоў хоча захаваць толькі для сябе. Трэба сцерагчыся, каб грэх зайздрасці не зрабіў з нас больш грэшнікаў, чым тыя, якія ў апошнюю хвіліну жыцця хапаюцца за міласэрную руку Езуса.

*– Ці веру я ў Божую любоў?*

*– Ці веру, што Бог сапраўды мяне любіць?*

*– Ці веру, што Ён хоча дабра для ўсіх людзей?*

*– Ці давяраю Яму?*

*– Ці іду за Ім, каб выконваць Яго волю?*

*– Ці веру, што Бог – справядлівы і мяне не пакрыўдзіць?*

*– Ці памятаю, што поўнай узнагароды трэба чакаць у небе, дзе будзем у дасканалай еднасці з Богам і па-за зямнымі турботамі?*

*– Што раблю з пачуццём зайздрасці, якое з'яўляецца ўва мяне?*

*– Ці размаўляю пра гэта з Езусам?*

*– Ці падпарадкоўваюся волі добрага Бога?*

*– Ці разумею, што не магу на зямлі атрымаць усё, што захачу?*

*– Ці разумею, што поўнае шчасце будзе толькі ў небе?*

*– Ці не развіваецца ўва мне грэх зайздрасці?*

*– Ці не выступаю праз яго супраць дабра і супраць Божай волі?*

*– Ці не перашкаджае мне зайздрасць радавацца таму дабру, якое атрымліваю ад Бога?*

*– Ці радуюся з навяртання грэшнікаў?*

*– Ці ўсведамляю, што я першы сярод грэшнікаў, якога Бог адарыў міласэрнасцю?*

**1 кастрычніка 2017 г.**

***Мц 21, 28-32***

У гэтай прыпавесці Бог тлумачыць нам, што чакае ад нас паслухмянасці. Трэба прыняць Езуса Панам свайго жыцця і жыць згодна з Яго воляй. Паслухмянасць выражаецца не толькі ў словах, але і ва ўчынках. Таму бывае, што грэшнік, пакінуўшы дарогу граху, пачынае абганяць у духоўным развіцці крывадушніка, які толькі гаворыць пра паслухмянасць, але не жыве паводле Божай волі.

*– Ці шукаю я Божай волі?*

*– Як шукаю Яго волі?*

*– Ці разважаю пра сэнс свайго жыцця?*

*– Ці звяраю гэтыя пытанні і адказы на іх з вучэннем Езуса Хрыста?*

*– Ці памятаю, што Бог лепш ведае, што для мяне добра?*

*– Ці разважаю над Божым словам і вучэннем Касцёла?*

*– Ці чытаю рэлігійную літаратуру?*

*– Ці ўдзельнічаю ў фармацыйных групах?*

*– Ці карыстаюся ў пошуках Божай волі дапамогай духоўнага настаўніка, пастаяннага спаведніка?*

*– Ці раблю штодзённа невялікі рахунак сумлення, каб праверыць, як выконваю Божую волю?*

*– Што я павінен зрабіць у найбліжэйшы час, каб выконваць Божую волю адносна мяне?*

**8 кастрычніка 2017 г.**

***Мц 21, 33-43***

Бог абраў і падрыхтаваў ізраільцянаў, каб яны сталі народам, праз каторы Ён прынясе збаўленне свету. Ён шмат клапаціўся пра гэты народ. Але мы ведаем, што Божая воля і Езус многімі з гэтага народу не былі прынятымі. Ізраіль не прынёс плёну, забіваў сваіх прарокаў, забіў і Езуса. Святло збаўлення, перададзенае нешматлікімі вучнямі, прынесла плён сярод новага абранага народу – святога Касцёла. А адкінуты Езус стаў падмуркам – вуглавым каменем будоўлі новага Ізраіля. Нельга адкідваць Езуса, бо можна спатыкнуцца аб гэты Камень, а толькі ў Ім ёсць збаўленне і Ён прыйдзе судзіць жывых і памерлых.

*– Ці прыносіць мая вера плён?*

*– Ці знаходзіць Бог у маім жыцці любоў, якую Ён ува мне выхоўваў?*

*– Ці шукаю Яго Касцёла?*

*– Ці паслухмяны я Яго волі?*

*– Якая Яго воля адносна мяне ўчора? А сёння?*

*– Ці прыслухоўваюся да натхненняў Святога Духа?*

*– Ці чытаю і ці разважаю над Божым словам?*

*– Ці імкнуся распазнаць Божую волю са сваім спаведнікам?*

*– Ці не забіваю ў сваім сэрцы голас Бога?*

*– Ці слухаю сваё сумленне?*

*– Ці разумею, што без Езуса, без Яго слова і Яго Сакрамантаў я не прынясу плёнаў?*

*– Ці не пагарджаю Езусам?*

*– Ці з належнай пашанай стаўлюся да ўсяго, што святое?*

*– Ці з трымценнем і пашанай клапачуся пра дар веры, які маю, каб не страціць яго?*

**15 кастрычніка 2017 г.**

***Мц 22, 1-14***

Бог усіх нас запрашае да ўдзелу ў Яго Валадарстве. Усе мы, у тым ліку язычнікі, бязбожнікі і грэшнікі, маем Божае запрашэнне. Бог не мае агіды ні да нашай слабасці, ні да нашай хваробы, ні да нашых грахоў, Ён запрашае ўсіх. Аднак прыняць запрашэнне Езуса – гэта толькі першы крок. Ён нас збаўляе і запрашае з усіх далёкіх і блізкіх мясцін. Трэба прыйсці на вяселле, апранутым у вясельную вопратку. Гэта будзе знакам нашага асабістага заангажавання ў справе свайго збаўлення. Кожны з нас павінен развіваць у сабе атрыманыя Божыя ласкі і дары, каб яго душа падрыхтавалася да ўдзелу ў нябеснай славе, каб напоўнілася любоўю, якая выражаецца ва ўчынках.

*– Ці прымаю я Божае запрашэнне?*

*– Ці хачу звязаць сваё жыццё і вечнасць з Богам?*

*– Ці разумею, што "вяселле" распачынаецца тут, на зямлі?*

*– Ці разумею, што Божае валадарства – гэта Божае жыццё ўва мне, у маёй душы?*

*– А можа, у мяне, "выпадкова", заўсёды не хапае часу: малітва, спавядацца, выконваць Божую волю, рабіць добрыя ўчынкі, любіць?*

*– Калі я вырашыў прыняць Божае запрашэнне, то ці апранаю душу ў "вясельную вопратку"?*

*– Ці развіваю я Божыя дары, якімі Бог мяне адарыў? Якія? Як?*

*Разважанні падрыхтаваў*
***кс. Павел Кнурэк***
*Віцебск*

# ПАЗНАВАЙКА

## Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!

### Адкажы "так" ці "не"

У сённяшняй "Пазнавайцы" гаворка пойдзе пра анёлаў!!!

Прачытай разам з бацькамі наступныя сцвярджэнні. Каля правільнага выраза неабходна пісаць "ТАК". Калі ж лічыш, што выказванне памылковае, побач з ім пішы "НЕ"..

- *Не кожны чалавек мае анёла, які яго аберагае.* ☐
- *Цераз анёлаў Бог часта абвяшчае Сваю волю.* ☐
- *Усе анёлы маюць цела.* ☐
- *Анёлы знаходзяцца ў небе.* ☐
- *Наш Айцец Нябесны сказаў анёлам Сваім ахоўваць чалавека на ўсіх яго шляхах.* ☐
- *Анёлы маюць вялікую сілу і духоўныя здольнасці, якіх не маюць людзі.* ☐

### Палічы правільна ўсіх анёлаў

Перад табой малюнак, на якім можна ўбачыць шмат анёлаў. Табе трэба палічыць толькі анёлаў.

Правільную лічбу запішы тут ☐



### Размясці літары ў правільным парадку

Дарагі сябра! Выканай гэтае заданне і размясці літары ў правільным парадку!

Тады даведаешся, што азначае слова «анёл».

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2 | -П | 8 | - А | 18 | - А | 48 | -Е |
| 22 | -Ц | 21 | - Н | 33 | -Л | 4 | -С |

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | |
| 2 | 8 | 4 | 33 | 18 | 21 | 48 | 22 |

### Прайдзі праз лабірынт

Прайдзі лабірынт правільна, збіраючы па дарозе ўсе літаркі па парадку. Сабраўшы іх, ты даведаешся, у чым дапамагаюць анёлы чалавеку.

Будзь уважлівым! Кожнае новае слова пачынаецца з вялікай літары!




Атрыманы адказ запішы тут:___________________

### Падумай і злучы

Гэтых анёлаў неабходна злучыць са знакамі, намаляванымі справа так, каб лініі не перасякаліся. Прыгожа размалюй кожнага анёла.



### Памаліся да Анёла Ахоўніка

Кожны з нас заўсёды можа прасіць Анёла Ахоўніка аб апецы і дапамозе. І ў гэтым нам спатрэбіцца наступная малітва:

Анёле Божы, дружа мой,
Ты заўсёды будзь са мной.
Рана, ўвечар і ўначы
Будзь ласкаў мне памагчы
Змагаць духа злога,
Верна служыць Богу.
Душу, цела сцеражы,
Да жыцця вечнага давядзі. Амэн.

*Мастачка: **Вольга Будкіна;** ідэя: **Ірына Радзевіч***

Каталіцкі ВЕСНІК
№9(78)
верасень 2017 г.

# “Але ты малíся за мяне, мама...”

**3 кастрычніка 2016 года ў Смаргонскай парафіі св. Міхала Арханёла дзейнічае малітоўная суполка “Маці ў малітве”, пра дзейнасць якой распавялі яе ўдзельніцы.**



Ініцыятыва арганізаваць групу ў Смаргоні належыць спадарыні Аліцыі Грыцук. У кастрычніку 2016 года ў Смаргонскую парафію прыехала каардынатар руху “Маці ў малітве” ў Беларусі Людміла Губіна, якая расказвала пра сутнасць суполкі. У той дзень шмат матуль пажадала далучыцца да руху.

Зараз малітвы адбываюцца адзін раз на тыдзень. Жанчыны наведваюць гэтыя сустрэчы перш за ўсё для таго, каб памаліцца за сваіх дзяцей і ўнукаў, а таксама каб падтрымліваць іншых матуль праз малітву і сяброўскі ўдзел. Не менш важным з’яўляецца асабістае духоўнае развіццё.

Духоўная канцэпцыя ўдзельніц руху “Маці ў малітве” – прастата, абсалютнае падпарадкаванне сваёй волі Пану Богу і радаснае служэнне Яму. Збіраючыся разам, жанчыны шчыра моляцца да Духа Святога за сваіх дзяцей, чытаюць Святое Пісанне, спяваюць песні праслаўлення.

Удзельніцы яскрава адчуваюць, як змянілася іх жыццё пасля наведвання групы: кожны дзень стаў пачынацца з радасці, з’явіўся давер да Бога, палепшыліся адносіны на працы, у сям’і, дзеці пачалі давяраць... Здараецца шмат прыемных і радасных гісторый: у сям’і сына многа гадоў не было дзяцей, а ў хуткім часе пасля пачатку малітваў з’явілася радасная навіна: цяпер бабуля чакае ўнука... Малады чалавек прыступіў да сакраманту пакаяння перад святам Вялікадня, і пасля доўгага перыяду чакання сын знайшоў працу...

> **Толькі таму, што ты, мама, молішся за мяне, са мной не здарылася аварыя**

Але самым радасным пацвярджэннем, што Бог адказвае на малітвы, з’яўляюцца выказванні самых дзяцей: “Толькі таму, што ты, мама, молішся за мяне, са мной не здарылася аварыя”. Сын, у якога былі праблемы з алкаголем, сказаў: “У мяне дзякуючы тваім малітвам, мама, нават іншыя думкі пачалі з’яўляцца”. Думкі такія: “Так раблю, бо гэта маё жыццё. Але ты, мама, маліся за мяне”.

Жанчыны кажуць, што дзякуючы руху ў іх з’явілася адчуванне ўпэўненасці ў заўтрашнім дні. Яны ведаюць, што Бог абавязкова adoрыць іх сіламі, каб справіцца з усім, што будзе адбывацца ў жыцці.

## Як уступіць у рух “Маці ў малітве”?

Існуе мацярынства не толькі фізічнае, але і духоўнае. Яно аб’ядноўвае жанчын, нават калі тыя не маюць дзяцей. Таму ў групу “Маці ў малітве” можа ўступіць кожная жанчына!

**Кантактныя дадзеныя для тых жанчын, якія жадаюць уступіць у рух “Маці ў малітве”:**

**+37529 215-08-20 *(спадарыня Аліцыя Грыцук)*.**

## Даведка:

Міжнародны малітоўны рух “Маці ў малітве” (“Mothers Prayers”) узнік у Англіі ў 1995г. Яго заснавальніцы – дзве жанчыны-каталічкі з Вялікабрытаніі, Вераніка і Сандра. Яны адчулі асаблівую патрэбу маліцца за сваіх дзяцей і ўнукаў, бо ніякім іншым чынам не маглі дапамагчы сваім родным, якія жывуць у неспакойным свеце. Праз малітву жанчыны зразумелі, што Езус заклікае ўсіх маці даверыць сваіх дзяцей Яго апецы.

У цяперашні час суполкі “Маці ў малітве” дзейнічаюць больш чым у 100 краінах. Першыя малітоўныя групы “Маці ў малітве” ў Беларусі з’явіліся ў лютым 2001 года. Зараз гэтыя групы існуюць ва ўсіх дыяцэзіях нашай краіны. Каардынатар руху ”Маці ў малітве” ў Беларусі – Людміла Губіна.

*Ірына Радзевіч*, *sdb.by*

**Адказы на тэст са стар. 9:**
1 – А; 2 – Б; 3 – А; 4 – Б; 5 – Б; 6 – В; 7 – А; 8 – А.

# Ахвяруй на “Каталіцкі Веснік”

**Дарагія сябры!**

**Ёсць магчымасць дапамагчы газеце “Каталіцкі Веснік” фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам усяго 2 рублі, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!**

**Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць у якасці ахвяравання 2 рублі можна, зрабіўшы наступнае:**

**1. Адпраўце USSD-запыт наступнага зместу:**
***363*375295105172*2#**

**2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.**

**3. Дашліце USSD-запыт наступнага зместу:**
***363*[код пацвярджэння]#**

**4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумара 364. З балансу Вашага тэлефона будуць спісаныя 2 рублі.**

**Увага!**

**Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 2 рублі. Каб даслаць большую суму, неабходна паўтарыць аперацыю.**

**Рэдакцыя можа атрымаць не больш за 10 рублёў за каляндарныя суткі. Калі Вам прыйшло паведамленне пра памылку, калі ласка, дашліце ахвяраванне яшчэ раз або паўтарыце яго на наступны дзень.**

**Вялікі дзякуй за ахвяраванні на падтрымку газеты “Каталіцкі Веснік”! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша. Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!**

***Рэдакцыя газеты “Каталіцкі Веснік”***

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:**
мясцовае рэлігійнае аб'яднанне “Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Выдавец:**
рэлігійная місія “Дабрачыннае каталіцкае таварыства “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Галоўны рэдактар:**
кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:**
Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:**
Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:**
Марына Сінкевіч
**Карэктары:**
Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты “Каталіцкі Веснік”, перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП “Віцебская абласная друкарня”, г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 5863

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3000 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 20.09.2017 г. у 11.10

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:**
211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь